# КАМЕННАЯ ТОГА МАЙСЕЯ

На пачатку перастройкі журналісты на ўсе лады пераказвалі біблейскую прыпавесьць пра тое, як прарок Майсей выводзіў свой народ з рабства. 40 гадоў яны йшлі праз пустэльню. Якраз пакуль не зьмянілася пакаленьне. Але сам гэты тэрмін не бянтэжыў журналістаў. Іх захапляла ўжо тое, што гутарка ішла пра шлях да свабоды.

Сёньня, празь 10 гадоў перастройкі, у нас пра гэтую прыпавесьць ня згадваюць. Ці то паралелі перасталі працаваць, ці то голас прашорх ад пустэльнае сьпёкі. А хутчэй за ўсё не знайшлося такога чалавека, якога можна было б параўноўваць з Майсеем.

Тады, у 90-м, мы рушылі разам з усімі, каб быць як усе —абвясьцілі сувэрэнітэт, дзяржаўнасьць мовы, замянілі герб і сьцяг, але неўзабаве... Адбылося так, як на стаерскай дыстанцыі: выбягаюць усе разам, а тады глядзіш — ужо бягуць групамі, нарэшце расьцягваюцца па ўсёй дыстанцыі — па адным.

Менавіта да гэтага моманту, калі мы засталіся адныя, хапіла і нашага адраджэньня, і нашых нацыянальных інтарэсаў, і нашых палітыкаў. А тады, калі мы адчуліся на самоце, прычым ззаду, усё гэта кудысьці прапала. Мы сталі задумвацца — а чаго бяжым? Нашто каўтаем гэты пясок пустэльні? Ад чаго ўцякаем? Ад рабства? Але якое там ужо асабліва было рабства...

Ну, акурат як народ ізраілеў перад Чырвоным морам. "Навошта ты нас Майсей пацягнуў у гэтую вандроўку? Былі ж у нас і дом, і хлеб. А цяпер сьпераду мора, а ззаду фараонава войска, гатовае перабіць нас да апошняга".

Да гэтага месца паралель яшчэ працягвае працаваць, але далей абрываецца. У біблейскай прыпавесьці воля прарока сатварыла цуд. Расступілася мора і ўратаваўся народ ізраілеў. А што адбылося ў нас?

Па вялікім рахунку тады, ў 90-м годзе, ніхто нічога мяняць і не зьбіраўся. Бралі тое, што ішло ў рукі само. І засёды былі **маральна гатовыя** вярнуцца ў савецкую фараонаву звыклую няволю.

Гэтак раздумаліся мы, спыніліся, азірнуліся не без шкадаваньня, павярнуліся і — пабрылі назад. Камэнтатар у стадыённай будцы паглядзеў на такога стаера і сказаў: беларусам не хапіла сілы духу, маральнай цьвёрдасьці і волі да перамогі.

Дарэчы, усё гэта ў народа ізраілевага, які 40 гадоў ішоў да свабоды, увасабляў якраз Майсей. Як сказалі б сёньня — духоўны лідэр нацыі. Яму верылі. А каб ісьці да свабоды, у яе трэба толькі верыць.

У нашым выпадку, калі свой Майсей ніяк не прамалёўваўся, можна было павярыць у прыклад суседзяў: палякаў, якія ўжо выбраліся з крызысу і эканоміка якіх плюсуе, або літоўцаў, якія на вачах ператвараюцца ў рэспэктабэльных швэдаў. Але мы ня верым. Ні ў іх, ні ў сябе, ні ў Бога. За 70 гадоў сэсэсэр нашую веру выглушыў страх. І цяпер, калі здаецца ад страху засталася толькі інэрцыя, звычка, бытавая боязь, — у нас вельмі мала элемэнтарнай энэргіі і волі да жыцьця. Мы ня хочам жыць. І бадай ніякі Майсей не скране нас наперад. Тут патрабуецца нешта накшталт пераліваньня крыві.

* * *

Памятаю, у пачатку 70-х абітурыент менскага мэдынстытуту Радзюк ня здаў уступныя іспыты, выехаў за горад і павесіўся на разлапістым клёне. Сёньня наша **НАЦЫЯ** правaліла свой цывілізацыйны іспыт і пасела сярод пустэльні на 10-м годзе падарожжа да свабоды, што таксама раўназначнае самагубству.

Пах суіцыду разьліты ў нашым нацыянальным паветры. Майсей у роспачы. Ён бачыць, што ўжо не падыме людзей з барханаў. Але ён прарок. Ён ва ўсім мусіць быць **ПЕРШЫ**. Ягоная задача —ўгадаць гістарычную непазьбежнасьць, якая б дзіўная яна ні была, і паказаць рукою — туды. І вось беларускі Майсей вырашае ўчыніць самагубства першы.

Я маю на ўвазе нашу інтэлігенцыю,



нашу лепшую інтэлігенцыю. Найбольш сьвежы і яскравы прыклад — ліст 60-гадовага пісьменьніка Сакрата Яновіча галоўнаму рэдактару часопіса "Nowe kontrasty" (студзень 1997 г.):

**"Дызя, — зьвяртаецца да калегі Яновіч, — ты нават не ўяўляеш сабе, што значыць быць беларусам. А гэта значыць стаць ненавісным ня толькі для іншых, але і для сваіх, якім мой нацыянальны патрыятызм патрэбны гэтаксама як скула на дупе. Гэты прыгонны народ марыць адно пра тое, каб урэшце перастаць быць сабою. Ведаеш, я змучыўся за 40 гадоў свайго беларусаваньня, каб мяне заняло. Мне амярзела гэтая беларуская тэматыка.**

**Дызя, я пачуваюся замардаваным гэтай Беларусяй, як і нашымі польскімі беларусамі, якія тут робяць усё, каб стаць палякамі, гэтаксама як тыя там — рускімі. Я станаўлюся публічным ворагам №1 для многіх. Каб іх заняло... Іду на рыбу і пачынаю жыць толькі для сябе. Гэтым тэкстам разьвітваюся!"**

Сакрат Яновіч — прызнаны беларускі літаратурны мэтр, які жыве ў Польшчы. Калі маеш магчымасьць штодня параўноўваць сваю сытуацыю з польскай — зразумееш усё хутчэй, чым калі жывеш у РБ.

Зрэшты, першы ўчыніў самагубства не Яновіч, а народны паэт Панчанка, які некалькі гадоў таму разьвітаўся зь беларускай мовай, чым выклікаў нават невялікі скандал, чаго, магчыма, і дамагаўся.

Як для мяне асабіста, дык гэта ўсё нагадвае кепскія жарты. Калі штодня паўтараць нейкі жарт, то можна не заўважыць, як ён ператварыўся ў рэальнасьць, а ты сам стаў ягоным нявольнікам. Напрыклад, у сем'ях, дзе пры ўсёй адкрытасьці дачыненьняў часта жартуюць пра рэўнасьць, пасьля бывае ня могуць вырабрацца з канфліктаў, хоць ужо й ня памятаюць, калі і з чаго ўсё пачалося.

Увогуле, у самагубстве Майсея высакародны матыў. Прарок, які ня можа падняць свой народ з барханаў ніякімі пераканаўчымі, нібы горкаўскі Данка вырывае ўрэшце сваё сэрца, спрабуючы скрайняй мерай даказаць, што свабода **КАШТУЕ** жыцьця. У выпадку Сакрата Яновіча гэты ўчынак выглядае больш паэўрапейску: "іду на рыбу і пачынаю жыць толькі для сябе".

* * *

У гэтым амаль зьнявaжлівым, на першы погляд, параўнаньні, між іншым утрымліваецца намёк на пазытыўны выхад з нашай суіцыднай сытуацыі. Калхознапрыгонны прарок адварочваецца ад свае абрыдлае і непрабіўнае паствы і ідзе на рыбу — жыць для сябе. Калі ён пры гэтым застаецца яшчэ й літаратарам, то лічыце, што ня ўсё страчана.

Сакрат Яновіч разам з горкай нехацьцю выявіў тое, чаго сёньня так бракуе ўсёй нацыі — хаценьне жыць. Наш Майсей забівае не сябе як беларуса, бо інакш мы чыталі б не ягоны ліст, а ягоны нэкралёг. Ён забівае ў сабе прарока. Ён здымае зь сябе высакапарную "адказнасьць за народ і ягоны лёс", чым робіць гэтаму народу вялікую паслугу. Бо сёньня кожны прыклад сьцверджаньня індывідуальнасьці для беларусаў раўназначны сьцверджаньню свабоды.

Прызнай уваа мне ня частку твайго натоўпу, не калгасьніка — чалавека другога гатунку, а асобу — і ты ўбачыш зямлю Ханаанаву. А калі ты яшчэ пачнеш бараніць маё права ісьці на рыбу і жыць для сябе як сваё права на тое самае — тады можаш сьмела ісьці на пераздачу цывілізацыйнага іспыту.

Скінуўшы прарокаву тогу, Яновіч зрабіў вымоўны крок — ён заявіў пра зьмену дыскурсу. Майсей будзе цяпер займацца не сваім народам, а сабою. Гэтае прызнаньне ў нашай сучаснай культуры далібог вартае волі Майсея.

Наш Майсей — у такім яго выглядзе, яшчэ савецкі, скажам так, Майсей, — ніколі ня выведзе народ з савецкае мінуўшчыны. Ён мусіць заняцца грунтоўным пераглядам сваіх асабістых прынцыпаў і канстантаў. Тога прарока як бы засьцерагае яго ад унутраных сыстэмных зьменаў, бо яна — каменная. І таму толькі скінуўшы гэтую тогу інтэлігенцыя можа перагледзець сваё месца і задачу ў грамадзтве.

**Наша культура 10 гадоў пасьвіцца на палях палітыкі і нарэшце пачынае разумець, што там для яе няма дывідэндаў. Культура не прырастае палітыкай — толькі наадварот. А беларуская культура, якая так і не дэсаветызавалася, працягвае "вучыць" і "весьці народ", сама ня ведаючы куды. Яна ня хоча зьмяняцца. "Памру якая ёсьць, — кажа яна. — Няхай тады плачуць".**

Разгарніце газэты і часопісы нашых літаратараў. Яны засталіся зусім савецкія, толькі да таго ж сталі яшчэ і ўбогія —паводле фармату, якасьці паперы. І яны цярпяць. Маўляў, хоць такая... культура. Садзяць у турму паэта — ніхто ані гуку. Цярпяць. Выганяюць з будынкаў — ну, нешта ж дадуць наўзамен.

* * *

Наўзбоч ад старой ерархіі, якая ўжо "зубкі апшэрыла", зьяўляецца шмат новых ініцыятываў. Суполкі, выданьні, праекты, якія пагражаюць зьляпіцца ў іншую, несавецкую культуру. Іх галоўныя рысы сёньня — нонканфармізм, індывідуалізм і дэкамунізацыя. Іх адрозьненьне ад старой ерархіі — хаценьне жыць. Іх крытэрыі ацэнкі — ня ў полі народнага прызнаньня, а ў полі эстэтыкі. Усё гэта забясьпечвае ім наступныя гарантыі: выжываньне пры любым рэжыме (бо яны не залежаць ад рэжыму); магчымасьць вырасьці ў новую культурную герархію; стварэньне каштоўнасьцяў. Яны вольныя ад палітыкі і прарочае місіі. Іх плён — кнігі і сувязі з культурным сьветам. Яны на вачах абрастаюць асяродкамі новага беларускага грамадзтва, дзе жыве мова, дзе чытаюць кнігі і дзе ўсё гэта сапраўды патрэбна. Яны свабодныя. Яны ўжо там — на абяцанай зямлі. І таму ім не патрэбны прарок.

**Сяргей Паўлоўскі**

## Пошта

Добры дзень шаноўнай рэдакцыі!

Зьвяртаецца да Вас сталы чытач і заўсёды прыхільнік адзінае беларускай па духу і зьместу газэты. Я ўдзельнічаў у апытаньні чытачоў, але маю патрэбу ў дадатковых меркаваньнях на гэты конт.

Спачатку крышачку пра сябе. Мне 30 гадоў, адукацыя вышэйшая, працую ў камэрцыйным банку, лічу сябе шчырым беларусам, менавіта дзякуючы спатканьню з "НН". Таму меркаваньне пра элітарнасьць, "заумность" "НН", я не ўспрымаю. Як мне падаецца, менавіта дзякуючы газэце, я сам узьняўся на прыступку да элітарнасьці. Але ж я сам дасягнуў гэтага, проста чытаючы газэту, без усякае "умной" падрыхтоўчае працы. Таму я мяркую, што кожны нармальны, у сэнсе незакамплексаваны чалавек можа і павінен чытаць гэтую газэту. Магчыма "НН" бракуе добрае рэклямы. Кажу гэта з асабістага досьведу. Усе мае калегі, праглядзеўшы асобнікі "НН", былі зьбянтэжаныя па-першае невядомасьцю газэты, і па-другое, узроўнем матэрыялаў, іх зьместам. Дарэчы, калегаў не напалохаў ні "тарашкевіцкі" правапіс, ні назва "незалежная". Так што будучыня ў газэты ёсьць несумненна.

Наогул, мне падаецца, што газэта за гэтыя 5 гадоў пасьля аднаўленьня, робіць зьмену толькі зьнешніх вопратак, не закранаючы галоўны стрыжань – незалежнасьць, беларускасьць, інтэлігентнасьць. І ў гэтым, на маю думку, няма ніякіх хібаў. Гэта сьведчыць пра пошукі газэты, а менавіта яны і вызначаюць стан жыцьця, разьвіцьця, пасоўваньня наперад. І ў гэтым я згодны з рэдакцыяй цалкам.

Цяпер крыху пра хібы, што мяне засмучаюць. Мне падаецца, што газэта неяк збочыла з тэмы гісторыі Беларусі, у сэнсе гісторыі культуры, грамадзкае думкі, асобаў, мастацтва. Шкада, што не атрымала працягу сэрыя нумароў, прысьвечаных месцам і асобным рэгіёнам Беларусі. Лічу, што ў сэнсе выхаваньня беларускага мэнталітэту, гэта не апошняя рэч. Згубілася тэма "Беларусы за мяжою" – тая ж Вільня, Вялікабрытанія, Польшча, Амэрыка. Я разумею, што нельга абхапіць усё адразу, але губляць з поля зроку гэтыя тэмы вельмі не хацелася б, асабліва з улікам сёньняшняга інфармацыйнага вакууму ў краіне на гэтую тэму. Яшчэ маё асабістае пажаданьне – спакваля пашыраць аб'ём матэрыялаў, надрукаваных лацінкай. Улічваючы вялікую цікавасьць моладзі да замежных моваў, беларуская мова лацінкай будзе ўваходзіць у іх жыцьцё і хутчэй, і лагадней.

Вельмі ўсьцешыла мяне праца газэты па продажы літаратуры, касэтаў, якіх набыць у іншых месцах надта цяжка. Я сам –сталы пакупнік усяго гэтага. У кватэры асобная палічка зробленая менавіта на "прэзэнты" ад "Нашай Нівы".

Зычу Вам вытрымкі, натхненьня ў высакароднай працы –стварэньні беларускае нацыі. Будзем разам, з Богам у сэрцы –і ў нас усё атрымаецца, нават тое, пра што мы цяпер баімся і думаць!

**Уладзя Аніскевіч,**
*Баранавічы*

### Аслан Масхадаў:

# “Чачэнцы баяцца толькі Алаха”

*Трэці прэзыдэнт Чачэніі нарадзіўся ў 1951 г. пад час высылкі сям'і ў Казахстан. Школу скончыў на радзіме, куды бацькі вярнуліся ў 1957-м. Вучыўся ў Тбіліскай вайсковай вучэльні і Ленінградзкай артылерыйскай акадэміі. На працягу 23 гадоў службы ў Савецкай арміі, апошні зь якіх прайшоў ужо дэ-юрэ ў арміі Расеі, служыў на Далёкім Усходзе, у Вугоршчыне і Літве. У 1992-м сышоў у адстаўку і стаў адным з заснавальнікаў войска незалежнай Чачэніі. Зь ягоным удзелам вяліся мірныя перамовы з фэдэральным бокам пад час вайны. На дамовах, заключаных у Новых Атагах і Хасаўюрце, ад чачэнскага боку стаіць ягоны подпіс. Жанаты, мае сына і дачку, трох братоў, дзьвюх сясьцёр і маці.*

*З гісторыяў пра Масхадава найбольш вядомая ў народзе наступная. Пасьля першага штурму Грознага, калі ў горадзе паўсюль валяліся трупы фэдэралаў, якія елі каты з сабакамі, начальнік штабу ўзброеных фармаваньняў Чачэніі патэлефанаваў генэралу Бабічаву і прапанаваў спыніць агонь і забраць целы расейскіх салдатаў. Калі Бабічаў спытаў: “Навошта?” — пачуў у адказ у слухаўку, што ён не генэрал, а дзярмо...*



**“НН”: Аслан Аліевіч, што для Чачэніі сёньняшнія выбары?**

А.М.: Я думаю, што гэтага дня чачэнскі народ чакае даўно. За два гады вайны народ стаміўся ад гэтай жорсткасьці. Думаю, што пасьля 27 студзеня, калі ўлада будзе ўзятая ў рукі прэзыдэнта, можна будзе ўздыхнуць спакойна. А пакуль усё ў напружаньні. Ёсьць пэўныя сілы — і тут, і ў Расеі, і на Захадзе, — якія ўсяляк хацелі б перашкодзіць гэтаму. Каб выбары не адбыліся, каб была падстава сказаць, што яны недэмакратычныя, што прэзыдэнт і ўлады — не народам абраныя.

**“НН”: Пра тутэйшыя і расейскія “пэўныя сілы” сказана ўжо шмат. Але Вы сказалі, што і на Захадзе ёсьць незацікаўленыя ў развязцы канфлікту. Ці ня можаце гэта растлумачыць?**

А.М.: На вялікі жаль, мы наіўна лічылі, што ў сусьветнай палітыцы больш справядлівасьці. Але за час двухгадовай вайны пераканаліся, што ў палітыцы вялікіх дзяржаваў нічога не пакінута маленькім народам. Ім няма ад каго чакаць дапамогі. Можна толькі спадзявацца на ўласныя сілы. Два гады пачварная расейская ваенная машына тварыла тут усё, што адбывалася. У гісторыі войнаў шмат прыкладаў, калі гэткая машына праходзіла па такой маленькай тэрыторыі. Па Чачэніі яна прайшла тройчы... Іншы народ гэтага б ня вытрымаў.

Расейскія палітыкі казалі, што наводзяць тут канстытуцыйны парадак, што гэта ўнутраная праблема Расеі. І ўвесь сьвет лічыў, што гэта сапраўды так. Нават прадстаўнікі АБСЭ, пры ўсёй маёй павазе да іх. У статуце АБСЭ першым пунктам напісанае пра тэрытарыяльную цэласьць, а не аб правах чалавека. Значыць, можна забіваць, гвалціць, зьнішчаць, спальваць — абы толькі не парушыць тэрытарыяльнай цэласьці Расеі... На жаль, такое ў нас уражаньне склалася.

**“НН”: Але цяпер становішча зьмяняецца, хіба ня так?**

А.М.: Я ня бачу пакуль ніякай зьмены. Проста так склалася, што Расея кожны дзень знаходжаньня яе вайсковай машыны тут дыскрэдытавала сябе перад сьветам. Яны адсюль сышлі не ад таго, што так ім захацелася, а проста іншага выйсьця не было. Сама абстаноўка ўнутры Расеі не дазваляла далей ваяваць. А Захад таксама да пары да часу фіксаваў гэтую вайну, выдзяляліся мільярды даляраў. Кожны раз, калі скончаліся грошы — надыходзіла зацішша. І лічылася, што ячшэ тыдзень, месяц —і ўсё, разаб'юць, што там нейкая кучка бандытаў ў гарах. Чакалі. Возьмуць прэзыдэнцкі палац — і ўсё. Возьмуць Горад — і ўсё. Возьмуць Шалі — і ўсё. Возьмуць Ведзяно... І так доўжылася два гады...

І калі мы ўзялі Горад... Грозны, а таксама Аргун і Гудэрмэс, тры гарады адначасова, на Захадзе зразумелі, што гэта бясконцая вайна. Яны дарма згубілі грошы. Таму, напэўна, таксама згадзіліся, што ваяваць тут ня мае сэнсу.

**“НН”: Якой справай прэзыдэнт Ічкерыі павінен заняцца неадкладна і першачаргова?**

А.М.: Мы ўсе ведаем, што тут хаос, як і бывае пасьля вайны, непрадказальная сытуацыя, злачыннасьць, бандытызм, вельмі шмат узброеных людзей. Хоць мы ў часе вайны шмат зрабілі, каб узброеныя падразьдзелы ўяўлялі адзінае цэлае, мелі цэнтралізаванае кіраўніцтва, усё адно ёсьць групоўкі, якія нейкім чынам выходзяць з-пад кантролю. Я пастараюся (і не пастараюся, а зраблю!) вызначыць месца для кожнага байца, які са зброяй у руках абараняў сваю радзіму, свой народ. Знайду ім годнае месца, вызначу, што законна, што незаконна. І пастараюся як найхутчэй дапамагчы людзям, якія пацярпелі ў вайну.

**“НН”: У сьвеце шмат кажуць, што цяпер для жыхароў Чачэніі будуць уведзеныя законы шарыяту...**

А.М.: Вас палохаюць ісламскай рэспублікай. І з вашага гледзішча гэта бачыцца як нешта неверагодна страшнае: фундаменталізм і гэтак далей. Мы пад гэтым разумеем іншае. Толькі на прынцыпах ісламу можна ўзяць сытуацыю пад кантроль. Сьвецкімі законамі, якімі кіраваліся раней, навесьці тут парадак немагчыма. Шарыяцкія законы чачэнцы выкарыстоўвалі нават пры савецкай уладзе, хоць гэта і каралася савецкімі законамі. Чачэнцы баяцца толькі Алаха. Калі напісана ў Каране, што чалавек асуджаны па шарыяту, гэтаму бясспрэчна падпарадкоўваюцца.

**“НН”: У сьвеце шмат краінаў з рознымі формамі шарыяту. Якую абярэце Вы?**

А.М.: Нам навязваюць розныя формы, напрыклад, шуданскі, Саўдаўскай Аравіі. Не. Нават у часы Шаміля, імама Чачэніі і Дагестану, у 1820-я гады, у часе Каўказкай вайны для чачэнцаў рабіліся пэўныя саступкі. Ведаючы нашыя норавы, звычаі. Тут будзе чачэнскі варыянт. Па-іншаму нельга... Закон кроўнай помсты — гэта нешта вышэйшае за ўсё для чачэнца. Забілі майго брата — я павінен адпомсьціць. Нехта павінен адпомсьціць. Праз год, праз дзесяць гадоў, праз сто, праз

### Партыя Руслана Кутаева:

# “У нас будзе чачэнскі лад!”

*Парлямэнт пасьляваеннай Ічкерыі, не сфармаваны да канца зь першага туру выбараў, быў “узяты” адразу Партыяй Нацыянальнай Незалежнасьці. Сёньня гэта адна з галоўных палітычных сілаў у рэспубліцы. Старшыня ПНН Руслан Кутаеў быў вымушаны ня так даўно сысьці ў адстаўку з ураду З.Яндарбіева, цяпер жа ягоная партыя бярэ рэванш... Мяркуецца, што пасьля другога туру выбараў парлямэнт Ічкерыі папоўніцца прадстаўнікамі іншых рухаў. Пакуль жа партфэлі дэпутатаў зь першага “заходу” атрымалі кандыдаты ад ПНН...*

*Як гэта адаб'ецца на лёсе Чачэніі? Пра гэта была гутарка карэспандэнтаў “НН” зь першымі асобамі партыі: лідэрам маладзёжнага руху ПНН Абдулом Істамулавым і віцэ-старшынём ПНН Магамэтам Армадавым.*

**“НН”: Ці дзеячы партыі таксама ўдзельнічалі ў ваенным супраціве? Вядома, што Вы падтрымліваеце Аслана Масхадава.**

М.А.: Мы — людзі невайсковыя. Мы вялі актыўную падпольную працу як у Чачэніі, так і за яе межамі. У гэтым сутнасьць партыі. ПНН існуе з 1993 году і мае, паводле нашых мерак, багатую гісторыю.

А.І.: Мы за нацыянальную незалежнасьць, і гэта найперш духоўная незалежнасьць. Ня маецца на ўвазе ўстаноўка памежных слупоў. Як сказана ў Каране, суседзяў не выбіраюць, яны пасланыя Богам. Трэба жыць.

М.А.: Мы ня хочам, каб нашая моладзь увесь час была “пад ружжом”. Мы хочам, каб яны нармальна вучыліся ў ВНУ. У Каліфорніі, у Нямеччыне, у Швэйцарыі, у Расеі. Стварыць спартовыя комплексы, каб яны займаліся. Без здароўя нацыі ня выжыць.

**“НН”: Што можаце сказаць пра прыціск расейскамоўнага насельніцтва? Едучы сюды, мы прачыталі ў “Комсомольской правде”: штодня забіваюць 3-4-х расейцаў...**

М.А.: Гэта абсалютна ня так. Можаце спытацца ў тых, хто прыяжджае з Расеі. Вось мой брат прапаў 19 лютага 1995 году: яго затрымалі на блёк-посьце, і дагэтуль дзе толькі ні шукалі — ніякай інфармацыі. Я павінен быў ненавідзець расейцаў. Але я расейскі народ паважаю, маю шмат сяброў сярод расейцаў. Нашыя прэтэнзіі да палітычнага кіраўніцтва Расеі. Да простага расейскага народу нянавісьці няма. У іх памiралі сыны, але яны сюды не добраахвотна ішлі. Мае суседзі сёньня — расейцы і армяне, мы ўвесь час зьбіраемся за адным сталом і дапамагаем адзін аднаму. Пра прыціск расейцаў кажуць толькі ўсялякія жырыноўскія.

**“НН”: Колькі словаў пра эканамічную праграму ПНН.**

А.І.: Старшыня нашай партыі, між іншым, вядомы эканаміст.



М.А.: Ёсьць асаблівасьці, якія характэрныя толькі для нас. Напрыклад, слова “прыватызацыя” да Чачэніі не стасуецца. У нас ніколі не было ні князёў, ні цароў, а была дэмакратыя, напэўна, з дня заснаваньня нацыі. Ніхто адзін да аднаго працаваць не наймаўся, багатых і бедных фактычна не было. На гэтай базе мы хочам будаваць эканоміку. Усё зямное багацьце належыць народу: нетры, лясы, зямля. А значыць, ня можа быць прыватызавана. Вось краму сваю — калі ласка!

**“НН”: А буйная прамысловасьць?**

М.А.: Не! Калі завод можна прыватызаваць — значыць, там ёсьць гаспадар, які наймае гэткіх самых чачэнцаў. Мы такое выключаем. Нам баяраў ня трэба! У

# Кананізацыя




*Круглы год. Хоку беларускіх паэтаў. Укладаньне — Уладзімера Адамчыка. Менск: Літаратура, 1996. 138 с.*

Хоку (гайку) — форма паэтычнай мініятуры. Яна бярэ свой пачатак у японскай літаратуры. Трохрадкоўе, якое прэтэндуе на гэтую назву, мусіць перш за ўсё вытрымліваць кананічную колькасьць складоў (5-7-5), і адпавядаць эстэтычным патрабаваньням, традыцыйным для японскай літаратуры.

Аскетызм гэтага жанру зьвярнуў на сябе ўвагу многіх эўрапейскіх літаратараў, і заняў такое ж пачэснае месца ў многіх літаратурах сьвету, як і іншыя, кананізаваныя раней паэтычныя формы. Такія, як санэт, трыялет, рандо й г.д. і т.п.

На жаль, за ўсе гады йснаваньня беларускай літаратуры, творчая спадчына бясспрэчна вялікіх японскіх паэтаў на беларускую мову ніколі не перакладалася, і беларускія чытачы практычна ня мелі шанцаў пазнаёміцца з плёнам іх творчасьці. Можа, гэты факт і паспрыяў таму, што першыя публікацыі, якія зьявіліся на пачатку 80-х гадоў ў беларускім пэрыядычным друку вершаў Адама Глёбуса, Уладзімера Сьцяпана, Міраслава Шайбака, былі ўспрынятыя беларускай крытыкай калі не ў штыхі, то зь недаверам. Крытыкі былі аднадушныя ў сваім скептыцызме, у дачыненьні да гэтай экзатычнай кветкі, перасаджанай на беларускую глебу. Шмат гаварылася пра традыцыі беларускага народу й яго літаратуры. Зрэшты, ніхто да галавы асабліва ня браў і тое, што сілабатанічную сыстэму вершаскладаньня не Францішак Багушэвіч прыдумаў, і зусім ня ў Пінску радзіма ямбаў, харэяў ды іншых анапэстаў. Традыцыя — рэч умоўная. Сёньня яе нібыта й няма, а заўтра ніхто ня ўспомніць пра ўчарашні дзень. Альбо наадварот. Памяць у людзей надзіва кароткая.

У кнігу "Круглы Год" увайшлі вершы дзевяці беларускіх паэтаў, якія ў той ці іншай ступені аддалі належнае жанру хоку. Тоўсьценькая атрымалася кніжка. Кампанія разнашэрсная. Ад шматтомнага й народнага Максіма Танка да Андрэя Антонава, які пасьпеў апублікаваць пару падборак у пэрыёдыцы. Месца між імі занялі імёны, вядомыя сёньня беларускаму чытачу: Уладзімер Арлоў, Уладзімер Сьцяпан, Адам Глёбус, Максім Клімковіч, Віктар Шніп, Міраслаў Шайбак... У зьмесьце іх імёны, як і мае быць у кожнай "крыху японскай" кніжцы, — паводле ўзросту. Параграф "павагі перад старэйшымі" — вытрыманы.

Паважаць старэйшых, безумоўна, трэба, але ў выпадку з Максімам Танкам укладальнік зборніка відавочна перастараўся. Трохрадкоўе, зь якога ўласна й пачынаецца анталёгія гучыць так:

*Рэкі, як людзі,*
*сьпяшаюцца да акіяну —*
*сваёй нірваны.*

Верш прэтэндуе на характарыстыку Макото — ісьціна, праўда, сапраўдная праўда, сапраўднае слова. Але, на жаль, гэта толькі прэтэнзія. За прыгожымі й гучнымі словамі, што зьляцелі з вуснаў захопленага будысцкай экзотыкай турыста, узброенага фотаапаратам-мыльніцай — традыцыйны беларускі "гарох з капустай". Рэкі можа й сьпяшаюцца да акіянаў. Але сьпешка па шляху да нірваны зусім не дарэчы. Асабліва, калі дарога займае не адну інкарнацыю.

Тое самае можна сказаць і пра другі верш:

***Неразлучнымі***
***толькі пакінуў нам Буда***
***Жыцьцё і Сьмерць.***

Тут Максім Танк усклаў на Буду паўнамоцтвы й абавязкі амаль Дэміурга. Навошта? Буда ня гэтым займаўся! Дзеля гучных словаў? Тады, пры чым тут хоку.

Бяз гэтых двух вершаў і нізка Максіма Танка, і сама анталёгія толькі б выйгралі.

Ветлівыя паклоны ў бок краіны ўзыходу сонца для беларускіх аўтараў хоку неабавязковыя. Яны прысутнічаюць, але гэта не тэндэнцыя:

*Ля кніжнай шафы*
*разьбіраю паперы,*
*раптам — верш Басё* (М.Шайбак)

або

*Так па-японску*
*празь белыя жалюзі*
*глядзець на зіму.* (А.Глёбус)

Алюзіі на вершы клясыкаў японскай паэзіі, а таксама іх ускоснае цытаваньне ў творах, зьмешчаных у гэтай кнізе, —прыём не забаронены. Тым больш, што аўтары гэтага зборніку напрацоўваюць свае, уласныя беларускія каноны дасканаласьці й сымболіку, зразумелую беларускаму чытачу, алюзіі на вершы сваіх клясыкаў. Часам пераклад гэтых вершаў на іншыя мовы бяз зносак, у якіх тлумачацца аспэкты беларускай гісторыі, этнаграфіі й г.д., становіцца немагчымым.

*Драўляны мост. Мір.*
*Ідзе стрыножаны конь —*
*рыпяць масьніцы.* (М.Клімковіч)

*Як сумна гарыць*
*Зорка ў ранішнім небе —*
*зорка Вэнэра.* (У.Сьцяпан)

На маю думку, гэта сьведчыць пра тое, што хоку, як жанар, усталяваўся ў беларускай літаратуры. Як надоўга й трывала — будзе залежаць ад чытача. Ці гатовы ён успрымаць паэтычную мініятуру, як самадастатковы твор.

**Андранік**

# Паэзія прапорцыяў




*Славамір Адамовіч. Каханьне пад акупацыяй: Вершы. — Менск, 1996. 47 с.*

Мой акцэнт на творчасьць Славаміра Адамовіча такі — гэта паэзія прапорцыяў. Неяк Адамовіч падпісаў кніжку ("Зямля Ханаан") адной маёй сяброўцы Юлі і ў невялічкім тэксьце прысьвячэньня разьбіў сваё імя на дзьве часткі: Слава-мір. Відаць, сваім жаданьнем, не настроем, вызначаў паэт напаўненьне гэтых частак. Слава ствараласяя бунтарствам, натуралізмам, рэзаньнем чытацкага густу, рэзкімі вобразамі, а мір — ашчадным стаўленьнем да чалавечых каштоўнасьцяў.

Варта ўважліва перачытаць два папярэднія зборнікі Адамовіча, каб заўважыць, што час паэта не зьмяніў. "Каханьне пад акупацыяй" — сынтэз адчуваньня ўласнага дыскамфорту ад камфорту і далікатнага разуменьня вечнага. Думаецца, для Адамовіча разуменьне не прыйшло праз экстрэмальную сытуацыю, бо апошняя была заўсёды чаканаю.

Характар праявіўся ў мэтанакіраваным правакаваньні чаканьняў чытача — кампазыцыя эмацыйная. Пачынаецца зборнік вершам "Калі яна пакідае арган", дзе з пэўнымі мужчынскімі нацяжкамі дасьледуецца сапраўдны жаночы прыярытэт — актыўная мілосьць (з мэтаю абвастрэньня ўвагі — паблажлівае: калі жанчына на арганах грае "штосьці з Баха", яна мкнецца туды, "дзе весела-вольна птахам, дзе многа чыстай вады". Прыгожыя жаданьні Адамовіч акрэсьлівае банальным: "жанчына едзе на мора і там заводзіць раман").

Апошні верш зборніка — "Разьвітальная для Сашкі", дзе для героя Адамовіч падрыхтаваў жорсткую раскрутку: "уздумаў нас прыстрашыць сваёй гэбісцкай зброяй", "ломіць зубы ад гукаў роднай мовы", "яму з Масквою клёва", "парань шклоўскі", і ў такім стылі. Уражвае, што часам мэтафарычнае аздабленьне вобразу адпавядае прадметнаму: "ты плюнуў на законы, на Бацькаўшчыну нашу, і гэты грэх да скону ты не замоліш, Саша". Кожнаму па заслугах. Таму й кампазыцыя: Жанчына — Улада, Каханьне — Акупацыя. Жыцьцё перамагае акупацыю.

Паэт не асуджае незмагарства. Бо на фоне ўсеагульнага незмагарства Адамовічава моцнае слова — ходаньне, а выклік пакутам — вычын.

Каханьне для Славаміра Адамовіча — катэгорыя самая ўскладнёная, гэта "траекторыя нэрвовага ціску". І калі асоба-змагар — гэта цэльны кірунак, то мужчына-паэт — гэта каардынаты. Успамін Адамовіча грэе ("Я чуў, каханая, што ты будуеш дом..."), балесны эратычны сыгнал маладосьці — запальвае ("Я палюбіў, цябе, дзяўчо, маніякальна..."), Славамірава прага ўвагі гарыць жаночымі вобразамі: "Божа, як непасрэдна хацела гэта жанчына маіх замоў", "не магу, не хачу адмовіць, калі просяць вочы твае". Абурэньне жаночай натуры падменаю суб'екта прашэньня кампэнсуецца прапарцыйным: "Выплаві зь мяне срэбра на сваім залатым агні", — ці больш канцэнтравана: "Я зноў гатовы на таран, бо зноў кахаю!" Адамовіч надзяляе прадмет свайго неспакою аўтаматам, фліртуе на "знаку мужнасьці" — жаночых вусіках, банальную замужку схіляе да акту, банальнасьць якога разбураецца вынікам — акупант не вытрымлівае каханьня.

На асаблівую ўвагу заслугоўвае ацэнка Адамовічам жаночай здрады. "Калі ты здрадзіш мне аднойчы... я не пайду, не ўтаплюся, — я ўспомню, дзе ляжаць набоі". Спадзяемся, што забіваць паэт зьбіраецца не Яе, а яго — хочацца адчуць мужчыну. Поза — жэст; павольны рух мілосьці — каханьне, як тэрор; прыручыў — "начамі, заліты спэрмаю, я памятаў пра цябе". Вобраз за вобраз, брутальнае пакараньне за захапленьне. Прапарцыйна неаднолькавыя вобразныя складнікі твораць гарманічны сынтэз. Запаведнік, салдат, музыка жаночага крыку і маніпулянт жаночага цела, сьцёбны камэнтатар дзьвюхмоўя ў ложку пры каханьні і ў зВароце да акупанцкага судовага выканаўцы, непераможаны, бо не пакідае амбіцыяў, запрашае Дзеву на Беларускі Пасад. Ад імя Мужчынаў, зь вераю ў іхнае, мужчынскае і нашае агульнае, чалавечае, паўстаньне зь нябыту. Для гэтага нам неабходныя дзьве рэчы — каханьне і акупацыя. Кожнаму — у сваёй прапорцыі. Акупацыя — каб стаць змагаром, каханьне — каб застацца чалавекам, і каханьне пад акупацыяй — каб перамагчы акупанта.

**Вольга Караткевіч**

# Нашыя землякі скіфы




*Рассадзін С. Землі амаль невядомыя: Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў. — Менск: Полымя, 1996.*

Ці скіфы — землякі, хай сабе й старажытныя, беларусаў? Менавіта так ставіць пытаньне аўтар гэтае кнігі. Выданьне не навукова-акадэмічнае, а яскрава асьветнае, бо мала хто на нашай зямлі ведае пра скіфаў, неўраў і андрафагаў, а яшчэ менш людзей разважаюць, ці зьяўляюцца тыя старажытныя народы нашымі землякамі.

Дзякуючы кнізе Сяргея Рассадзіна, такіх людзей пабольшае. Антычная старажытнасьць ня можа не прываблівань людзей XX ст. Там шукаюць свае вытокі ўсе народы сучаснай Эўропы, справа нарэшце дайшла да беларусаў. Пошукі аўтара ў прапанаваным кірунку прынесьлі пэўны плён. Так, С.Рассадзін упэўнена разьмяшчае скіфаў-земляробаў V ст. да Н.Х. у Гомельскім і Магілёўскім Падняпроўі, неўраў — на Давыд-Гарадоччыне, а андрафагаў — на Бярэзіне.

Трэба сказаць, што папярэднія пакаленьні навукоўцаў знаходзілі для гэтых старажытных народаў іншыя месцы. Ахвотнікі адшукаць, дзе ўсё ж яны жылі, могуць параўноўваць розныя пункты погляду, а мы зьвернем увагу на тое, адкуль такая цяга ў беларусаў усталяваць сувязі са старажытнымі народамі.

Увогуле жаданьне гэтае вельмі старое, калі не сказаць спрадвечнае. Яскравы прыклад з XV-XVI ст. — легенда пра прыезд з Рыму Палемона і рымскіх патрыцыяў — продкаў літоўскай і беларускай шляхты. Польская ў гэты час стварае сваю вэрсію пра ўласнае паходжаньне — ад сарматаў. Сарматызм, шляхецкая ідэалёгія Рэчы Паспалітай, пасьпяхова дажыла да XIX ст., калі ў Віленскім унівэрсытэце ўтварылася тайная арганізацыя "Племя сарматаў".

Яшчэ адзін шлях у гэтым кірунку пачаў пракладаць у XVIII ст. украінскі энцыклапэдыст Бэнэдыкт Хмялёўскі. Здаецца, ён першы паведаміў сьвету ў сваёй энцыкляпэдыі "Новыя Атэны" (1747 г.), што славуты рымскі паэт Авіды Назон жыў у ссылцы зусім ня ў Скіфіі, як ён сам пра сябе пісаў, а сярод палешукоў. Ідэя набыла папулярнасьць. Ужо ў XIX ст. яе разглядаў, але не падтрымаў, К.Контрым, затое далучыліся да такога погляду Ю.Крашэўскі, А.Тышынскі, М.Вішнеўскі, М.Вышкоўскі. Усталявалася думка, што Авіды жыў у Давыд-Гарадку (ён жа Авід-Гара). Аддаў даніну гэтай вэрсіі нават Уладзіслаў Сыракомля, але ён успрымаў думку пра Авідыя ў Палесьсі з чорным гумарам:

*Зроблена, як сказана: маркотны і хворы*
*Ужо Назон у пінскіх лясах зьбірае мухаморы,*
*Ловіць уюноў і ракаў цэзараў дарадчык*
*І з лукам сармацкім палюе на качак.*
*... А паэт, выгнанец, з голаду і смутку*
*У землях Радзівілаўскіх памёр у Давыдгрудку,*
*Цяпер яго імем гара завецца...*

Сыракомля пад Авідыем разумеў сябе, бо якраз у той час вымушаны быў бязвыезна жыць у Барэйкаўшчыне. Пазьней ідэя пра Авідыя на нашых землях страціла культуралягічную прывабнасьць, змарнела...

За савецкім часам тэма "Беларусь — антычнасьць" засталася недзе на задворках акадэмічнай навукі. Адзінкавыя сухія гіпотэзы навукоўцаў не знайшлі ніякага водгуку ў грамадзтве. Пэўна, меў С.Рассадзін падставы напісаць, што ягоная кніга — ці ня першая больш-менш маштабная спроба асьвятліць мінулае беларускай зямлі паводле антычных пісьмовых крыніц.

Дарэчы, пра крыніцы. Аматары даўніны апошнім часам атрымалі добрыя і поўныя пераклады антычных аўтараў, у тым ліку зборы фрагмэнты гісторыка-геаграфічнага характару. Калі можна пагадзіцца з тым, што кніжка не абцяжараная падрадковымі заўвагамі, то адсутнасьць сьпісу крыніц выклікае зьдзіўленьне. Як чытач спраўдзіць, што тыя ж неўры жылі каля Давыд-Гарадка?

Аўтар закрануў яшчэ адно важнае пытаньне: ці правамоцна пісаць "Старажытная Русь"? Бо ў сусьветным маштабе старажытнае — значыць, антычнае. Русь у гэтым сэнсе не была старажытнай, адно сярэднявечнай, фэадальнай. Старажытная эпоха ў гісторыі Беларусі — гэта антычныя часы, і скончыліся яны ў V ст. ад Н.Х. Калі працягнуць гэтую думку, ня можна пісаць і "старажытны Полацак" (бо ў антычнасьці той не існаваў), а толькі — "даўні, старасьвецкі Полацак". Беларускія аматары гістарычнай тэрміналёгіі атрымалі цікавы матэрыял для разважаньняў, і гэта зусім не гульня ў пэрлы, а сутнасныя пытаньні нашай гістарыяграфіі.

На заканчэньне выкажам спадзяваньне, што калі-небудзь праца С.Рассадзіна выйдзе ў пашыраным варыянце, каб фактам не было цесна, а думкам было вольна. Увага чытачоў ужо гарантаваная.

**Валеры Пазьнякоў**

# Чарнавік



*Беларусь перед выбором: демократия или авторитаризм / Андрей Боярунец, Алексей Голобуцкий, Виталий Кулик. — Киев, 1996.*

Кніга складаецца з двух разьдзелаў. Першы прысьвечаны ўласна "Беларусі перад выбарам", другі — усім рэальным і мітычным беларускім палітычным арганізацыям. Аб'ём першага разьдзелу —30 старонак, другога — 40. Гэтая акалічнасьць сьведчыць пра тое, што гэтую працу нельга назваць "дасьледаваньнем", як заяўлена ў анатацыі да кніжкі.

"Нашай Ніве" дакладна вядома, што "Беларусь перад выбарам..." рабілася за трое сутак. Падрыхтоўчая праца заняла адзін месяц і скончылася на пачатку сьнежня. З уводзінаў вынікае, што аўтары заклапочаныя зьяўленьнем у нашай краіне "атрыбутаў аўтарытарнага рэжыму". А таксама прызнаюць, што для таго, каб разабрацца ў паўстаньні аўтарытарызму ў Беларусі, патрэбны грунтоўны аналіз. Тым самым аўтары нібы апраўдваюцца за тое, што зробленая імі трохдзённая праца поўніцца шматлікімі хібамі і хутчэй нагадвае чарнавік, нават ня вычытаны карэктарам.

У першым падразьдзеле аўтары рэпрэзэнтуюць накід гісторыі Беларусі, якую падзяляюць на два пэрыяды. Першы — ад X ст. да 1994 году, у якім сканчаецца "пэрыяд укараненьня дзяржаўнасьці ў Беларусі" праз паразу "невялікай, у параўнаньні зь іншымі слаямі беларускага насельніцтва, праслойкі інтэлігенцыі", якая "адно на непрацяглы тэрмін здолела ўзначаліць нацыянальны рух". Наступны пэрыяд акрэсьліваецца як пачатак "эры Лукашэнкі".

Тры наступныя падразьдзелы намагаюцца рэпрэзэнтаваць панарамную храналёгію палітычных падзеяў Беларусі 1994-96 г.

Кніга ня мае больш-менш выразнага каркасу. Галоўная ідэя, якую на пачатку акрэсьлілі аўтары — імкненьне на прыкладзе Беларусі праілюстраваць узьнікненьне аўтарытарызму, ня спраўджаная. Рэч у тым, што чытач не сустракае ў тэксьце-храналёгіі якіх-кольвек вехаў ці пунктаў, якія б акцэнтавалі ўвагу на найбольш вызначальных у паўстаньні аўтарытарызму падзеях. Напрыклад, гвалт над апазыцыйнымі дэпутатамі ВС, што адбыўся ўвесну 1995 году. Ня згадваецца галадоўка лідэраў БНФ. Амаль адсутнічае інфармацыя пра іншыя, апрача "Чарнобыльскага шляху", масавыя акцыі пратэсту, якія ці ня кожны раз сканчаліся жорсткім беззаконным гвалтам з боку ўладаў.

Зразумела, з наскоку іншаземец ня можа ўвайсьці ва ўсе нюансы найноўшай гісторыі Беларусі. Таксама ясна, што каб хоць крыху наблізіцца да разуменьня нашай сытуацыі, аўтарам давялося збольшага працаваць з газэтнымі публікацыямі. Праўда, ці не палова цытатаў, скарыстаных у падразьдзелах, прысьвечаных палітыцы, узятая з адной газэты — "Белоруссия"...

Ня менш цікавы і другі разьдзел кнігі. У ім прыводзіцца сьпіс усіх палітычных арганізацыяў, якія аўтары знайшлі ў Беларусі. А гэта ня больш, ня менш — 46 штук. Аўтары ўказваюць, што такія арганізацыі, як ВКПБ, КРПБ, ЛДПБ, Славянский Собор, РНЕ, НБП, УНА-УНСО й РКМ "не являются в полном смысле слова элементами политикума страны". Адкуль ім ведаць, што чальцы Славянского Собора займаюць адныя з самых "казырных" пасадаў у дзяржструктурах, што спрычыненыя да фармаваньня культурнага поля Беларусі? Альбо што падчас нядаўніх акцыяў пратэсту на "Камароўцы" прадпрымальнікаў прымушалі ўступіць у "рады жырыноўцаў"?..

Ня мае сэнсу паглыбляцца ў аналіз памылак і ляпсусаў другога разьдзелу "Беларуси перед выбором...". Іх ня менш, чым у першым. Адсочваньне й крытыка гэтых ляпаў — працэс надзвычай цікавы й захапляльны. Гэта наводзіць на думку пра вялікую карысьць кнігі для беларусаў. Яна дапамагае скарэктаваць уласнае разуменьне жыцьця ў "эру Лукашэнкі".

**Севярын Квяткоўскі**

Сяржук Сокалаў

# НЕМАЎЛЯ

1.

Амаль памятаю, як нарадзіўся...

Дзядзька... Сядзіць... Ляпае... Ня тата... Не называе сынам... Цётка... Мама... Заплачу... Прыйдзе... Чаму дзядзька ляпае? Чаму мама там? “Ляп, ляп, ляп... Ляп-ляп-ляп... Ляп...” Непрыемна. Мама — там... Прыйдзе... Сьціхну... Пойдзе... Добра было б, каб ня ляпаў. Каб мама — не сыходзіла... Дзядзька павярнуўся. Паглядзеў... Мама пайшла... Малако жыве ў тым пакоі... Ніколі не канчаецца...

Сьвятло. Сьвятло сказала: “Ня плач”... Ня буду. “Ляп, ляп-ляп... Ляп-ляп-ляп...” Сьвятло сказала: “Друкуе”. Чорнае слова. Сьвятло сказала зноў: “Ты таксама некалі друкаваў”. Калі? “Перад тым, што нарадзіўся гэты раз”. Раскажы... “Ты сам памятаеш усё”. Так. “Тады прыгадвай, а я перакладу гэта ў словы”. Навошта? “Каб той, што ляпае, гэта надрукаваў”. Навошта? “Каб іншыя маглі пачытаць”. Навошта? “Калі іншыя пачытаюць, дзядзька і мама купяць малако”. Малако жыве ў тым пакоі. “Ляп, ляп-ляп...”

2.

Каханьне было. Часам яно азмрочвалася нягодамі, часам — ледзь ліпела, але было... Мы сварыліся... Я хаваўся ў сябе, гатовы быў кінуць усё да д’ябла і сысьці... Каханьне зьнікла... У думках я быў ужо недзе далёка-далёка, калі яно раптам вярталася і па-інквізытарску адбірала волю. Я прызнаваў свае памылкі, каяўся, абяцаў... Напруга ў адносінах спадала, і праз колькі дзён мы зноў былі... як ад пачатку?

Нешта няўлоўнае ўсё ж ірвалася. Нічога нельга пачаць нанова. Цяжар мінулага будзе няўмольна віссць, нагадваць, выдзіраць у бяссонныя ночы апошнія шматкі нэрваў. А потым на першай выпадковай купіне, ад якой нават носу не расквасіш, а проста так — зачэпісься, усё гэта, набалелае за тэрмін “ад пачатку”, раптам выбухне, гваздане пад самы дых, рэзьне раптоўным словам па тоненькай сувязі дзьвюх душаў... І зноў ты ўжо далёка... каб, ізноў — ад пачатку...

Нарэшце, упершыню за колькі гадоў звар’яцелага каханьня, я сапраўды сышоў. Усё выглядала досыць прыстойна. Праца вымагала на нейкі кароткі час маёй прысутнасьці ў іншым месцы... На разьвітаньне мы цалаваліся. Яна — на пару-другую тыдняў, я —назаўсёды... Сын туліўся да нашых ног і цягнуў уверх маленькія ручаняты... Мы ўзялі яго да сябе... А праз колькі хвілінаў дзьверы вагона зачыніліся і перад вачыма застаўся толькі



маленькі роцік з двума, як у зайца, зубкамі, і даў знаць шчымлівы боль за пакаранага безь віны...

Праз колькі дзён аднекуль зь цёмнага кута сьвядомасьці выплыла тое, нядаўна яшчэ пачварнае, а цяпер найпрыгажэйшае ў сьвеце: АД ПАЧАТКУ. Я біў яго па твары, пляжыў нагамі, нырцаваў у бездань чаркі альбо ў кудлы неспадзяванай каханкі, якая па старой памяці завітала на каганец, заплюшчыла вочы ды так і засталася... Каханка была лепшая... Усе жанчыны, пакуль яны толькі каханкі, — лепшыя. Прынамсі, яны не дамагаюцца ад цябе нечага большага, чымся простае задавальненьне. Ім хапае цябе такога, як ты ёсьць. Яны ня пхнуцца перайначваць, і ты плаціш ім тым самым дукатам. Нішто ня робіць чалавечых адносінаў гэткімі чыстымі, як часовасьць. Чым даўжэй яна трывае, тым лепш. Каханка вырашыла яе парушыць хатнім прыбіраньнем —першая прыкмета пераходу часовасьці ў заўсёднасьць... Ізноў усплыло тое: АД ПАЧАТКУ, і я прыязна разьвітаўся з кудлатай палюбоўніцай...

Першым затэлефанаваў я... Сказаў, што засхаў добра, а падаць свой голас раней — магчымасьці не было. Яна паверыла. Гэты давер прагучаў у пустой прасторы майго пакою, як звонкая аплявуха. Я больш ня мог працягваць новую гульню і вярнуўся да старой: АД ПАЧАТКУ. А потым было тое, пра што я даведаўся ад месяцовага промня, прахалоднага вечаровага паветра і... зрэшты, якая розьніца, адкуль...

3.

Гісторыя больш, чым банальная. Яны таксама зайшлі на каганец. Дзьве пары плюс адзін... Малы спаў, і таму аднаму знайшлася пара... Хлопчык прахапіўся й закрычаў, але гэта ўжо нічога не магло зьмяніць. Ягоны пратэст спазьніўся, і, калі яго ўзялі да сябе на падлогу, ён, усхліпнуўшы апошні раз, ціха заснуў... Яна не пратэставала... Яна толькі, як заўсёды, заплюшчыла вочы, і адбылося тое, што адбылося. Вось і ўсё... Ён быў прыемны. Яна — крыху спалоханая, але не настолькі, каб не аддзячыць яму пацалункамі і пяшчотамі. Каханкі заўсёды лепшыя. Прынамсі, яны сыходзяць і не дамагаюцца вярнуць страчанае. Для іх не існуе катэгорыі: АД ПАЧАТКУ. Пачатак можа быць толькі зь іншай і толькі да часу, пакуль яна не зьбярэцца прыбраць у ягонай кватэры...

Кола замкнулася...

4.

Мы зноў былі разам. Калі б нехта сказаў ёй, што нашая маленькая дачушка — вынік той выпадковай сувязі, яна б не паверыла... Дзеці не нараджаюцца ад аральнага сэксу. Толькі поўнаму ідыёту можа прыйсьці ў галаву нешта адваротнае... Дый на іншы выпадак былі тады ўсе засьцярогі...

Я не наракаў. Я з пакорай раба прыняў гэты лёс, і яна ніколі не даведаецца, што праўда не схавалася ў цемрыве часу. Па начох гэтая праўда рвала мяне сваёй аголенасьцю. Марва напаўняла мае напаўсны амаль фізычнай прысутнасьцю ў той ночы. Мне хацелася крычаць, але да каго? Боль зьнішчаў маю істоту, рабіў яе шчыгрынавай скурай, і тады мой позірк напаткаў шматок паперы... “Ляп, ляп, ляп-ляп-ляп, ляп-ляп...”

5.

Нечаканы літаратурны посьпех акрыліў, і за адным апаведам пацягнуліся наступныя. Гэта стала хранічным... Жыцьцё нібыта ўбілася ў каляіну, якая здавалася яму сваёй. Дадому пачалі заходзіць розныя людзі. Як некалі я да сталых, цяпер да мяне цягнуліся пачаткоўцы. Уражаньне было такое, што сьвет апанаваў шал пісьменства, сярод якога мая пэрсона была карыфэйнай прыма-балерынай...

Бясконцыя сталы зь ежай і пітвом. Аўтографы. Суцэльная эўфарыя, а ў прамежку — стол з паперамі ды бясконцае: “Ляп, ляп, ляп-ляп-ляп...” Кожны раз трэба было нанова даводзіць, што ты — геній. Адзін неасьцярожны крок — і ты — геній толькі для іншых. Мала што на

Эдгар Алан По

# АВАЛЬНЫ ПАРТРЭТ

Замак, куды мой службіт зарызыкаваў убіцца сілаю, абы ня даць мне, у маім стане адчайна раненага, заначаваць пад голым небам, быў аднэй з тых харомінаў мяшанае понуры й велічы, што ўжо аддаўна гмырыліся сярод Апэнінаў, і на самой рэчы, а ня толькі ва ўяўленьні сп-ні Рэдкліўр. З усяго выглядала, што ён быў часова й адно кагадзе пакінены. Мы атаўбаваліся ў адным з найменшых і найгорай умэбляваных пакояў у адзінотна аддаленай вежы будынку. Удэкараваньні былі багатыя, хоць старавечныя і ўжо паабдзёртыя. Сьцены былі абабітыя шпалерамі і ўвешаныя безьлічэннымі й разнастайнымі збройнымі трафэямі разам зь незвычайна вялікай колькасьцяй вельмі натхнонных мадэрных абразоў у багатых залатых рамах арабскага стылю. Гэтымі абразамі, якімі былі завешаныя скрозь ня толькі сьцены, але і ўсе куткі, як таго вымагала дзівосная архітэктура замку, вось гэтымі абразамі, можа, і змусіла мяне зацікавіцца тая агнявіца, што пачыналася ў мяне; дык я папрасіў Пэдра зачыніць аканіцы пакою — бо ўжо ж і ноч надышла — запаліць сьвечкі ў высокім сьвечніку, што стаяў у галавах майго ложка, а таксама адхінуць расшытыя аксамітныя запоны, што атулялі самы ложак. Усё гэта я захацеў зрабіць, каб магчы аддацца калі ня сну, дык хоць, прынамсі, пачароднаму сузіраньню гэтых абразоў і перагляду маленькае кніжачкі, якую я быў знайшоўшы на падушцы й якая апісвала іх.

Доўга, доўга чытаў я ды пільна, пільна ўзіраўся. Шпарка й слаўна пралёталі гадзіны, і надышла глыбокая поўнач. Месца, дзе стаяў сьвечнік, мяне не задавальняла, і, каб не турбаваць майго прымгнулага службіта, я з высілкам працягнуў руку і пераставіў яго так, каб больш відна падала на маю кніжку.

Але з гэтым рухам сталася нешта зусім неспадзяванае. Відно колькіх сьвечак (а іх было шмат) цяпер пала ў тую нішу пакою, што датуль была глыбака засьцененая аднэй з астояў ложка. І вось я ўгледзеў у зыркім відне партрэт маладое дзяўчыны, што толькі пачынала разьвівацца ў жанчыну. Борзьдзенька зірнуўшы на яе, я заплюшчыў вочы. Чаму я гэта зрабіў — нават мне самому не было адразу ясна. Ды пакуль мае павекі былі заплюшчаныя, я перадумваў прычыны, чаму я іх заплюшчыў. Гэта быў імпульсіўны рух, каб выйграць больш часу думцы — упэўніцца, што маё бачаньне не ашукала мяне — супакоіць і апанаваць маё ўяўленьне дзеля больш цьвярозага й пэўнага сузіраньня. За колькі вельмі кароткіх мамэнтаў я зноў пільна глянуў на абраз.

У тым, што я цяпер добра бачыў, я ня мог і не хацеў сумнявацца, бо першая ясьвіна ад сьвечак, што ўпала на палатніну абраза, здавалася, разагнала соннае адранцьвеньне, што ўкрадалася ў мае пачуцьці, ды ўзбудзіла мяне адразу да жыцьця.



Як я ўжо сказаў, гэта быў партрэт маладое дзяўчыны. На ім былі адно галава й плечы, выкананыя ў тэй манеры, якую адумыслоўцы завуць віньетнай — акурат у стылі ўлюбёных галовак Сулі. Плечукі, грудзі, нат кончыкі бліскучых валасоў няўзнак унітоўваліся ў няясны, але глыбокі сьцень, што тварыў фон цэльнасьці. Рама была авальная, багата пазалочаная й філіграваная ў маўрытанскім стылі. Цяжка было б знайсьці і твар, які захапляў бы больш, чымся сам гэты абраз. Але нельга было б знайсьці ані абраза, ані несьмяротнага выразу віду, што ўзрушылі б мяне гэтак раптоўна й бурна. І менш за ўсё магло быць так, што маё ўяўленьне, ускатурханае з свае паўдрымоты, памыльна прыняла гэтую галаву живое асобы. Я спасьцярог адразу, што асаблівасьць узору, віньеткі й рамы мусяць вомірг разьвеяць гэткую думку — мусяць не дапусьціць нават хоць бы на часінку зьяўленьня яе. Уважна думаючы над гэтым, я, можа, з гадзіну заставаўся напаўнахінуўшыся, з вачыма, прыкутымі да партрэта. Нарэшце, спаймаваўшы запраўдную таямніцу ягонага эфэкту, я адхінуўся назад на ложак. Я знайшоў чароўнасьць абраза ў абсалютнай жыцьцепадобнасьці выразу, што ад першага позірку канчальна зьбянтэжыла, апанавала йператрэсла ўсяго мяне. З глыбокай і пашанотнай багавейнасьцяй я пераставіў сьвечнік на ягонае ранейшае месца. Схаваўшы гэтак ад вачэй прычыну свайго глыбокага ўзбуджаньня, я нецярпліва шукаў кніжачкі, што апісвала абразы й іхнія гісторыі. Перагарнуўшы яе да нумару, прысьвечанага авальнаму партрэту, я прачытаў там наступныя няясныя й дзівосныя словы:

“Гэта была дзяўчына найрадчэйшага хараства, ня меншае мілавічнасьці, як

Сярод амбітных плянаў аднооўленай у 91-м "Нашай Нівы" было ня толькі надрукаваньне па-беларуску ўсяго Борхеса. Быў, і цяпер застаецца актуальным праект публікацыі спадчыны Эдгара Алана По: рыхтуюцца новыя пераклады твораў амэрыканскага пісьменьніка. У гэтым нумары мы прадстаўляем даўнейшы, але зусім нязнаны ў Беларусі перакладны тэкст. Гэтаму рафінаванаму беларускаму перакладу містычнай навэлі больш як 40 гадоў. На жаль, нам не вядомы аўтар перакладу: яго прозьвішча не пазначанае ў сьнежаньскім нумары выдаванага ў Мюнхене часопіса беларускае моладзі "Наперад" за 1953 год, дзе й быў надрукаваны "Авальны партрэт" Эдгара По.

*"Наша Ніва" выказвае падзяку за падрыхтоўку гэтай публікацыі ўладальніку памянёнага рарытэтнага выданьня перакладчыку Валерку Булгакаву.*

сьвеце можа параўнацца з пачуцьцём агіды да самога сябе... Можна ўцячы? Пазьбегнуць? Можа быць... Але ня мне. Я яшчэ раз у жыцьці прыўлашчыў чужое. На гэты раз цалкам не сваё.

6.

Нават тады, калі ён пачаў кружляць над ружай, яна думала пра сваё. Спалох, асьцярожнасьць ці недавер — усё гэта не было й драбочкам ейнай натуры. Дый што благога мог зрабіць далёка не маркут і нават не звычайны шуляк, хаця й крыляў, як драпежнік. Ружа пусьціла свой наркатычны сок. Яна сьпяшалася жыць і хацела даць жыцьцё іншым. Яна вабіла да сябе сапраўднай чысьцінёй і ўяўнай цнатлівасьцю. Яна абяцала нелюдзкія —Боскія ўцехі. Ад жывой вільгаці пялёсткі крыху, як бы прыпухлі, звабна прачыніліся і затрымцелі. Кожны, хто адважыўся б глянуць на яе ў тую хвіліну, непазьбежна быў бы схоплены насланьнём прыцягальнасьці. Далёка не шуляк адчуваў гэта на сабе. Кружляньне звужалася, пакуль ня стала роўным колу яшчэ не дарэшты раскрытай наквеці. Магутнасьць і ўладная сіла птаха проста мізарнела перад гэтай духовай пекнатой... Паратунку не было, ды ніхто пра яго й ня дбаў. Ня дбаў? Ніхто не хацеў, не зьбіраўся дбаць ці ратавацца ад шчымлівага пачуцьця, у якім раптам займае дых, цісьне ў грудзёх і туманіць глузды невядомая, незьнішчальная і непадуладная нікому сіла... Толькі найдужэйшыя ў сьвеце, намовіўшы сябе загадзя, могуць зацугляць гэтую сілу, але ня болей, чым на адлегласьць ейнага дазволу... Адно няўлоўнае падсьвядомае жаданьне скінуць цуглі ці проста пачуцьцё — і іх няма... Сьвет абрынаецца дагары: гінуць людзі, бурацца замкі, падаюць з уладных галоў кароны, рэкі пачынаюць бегчы да сваіх вытокаў, а тыя, як і вульканы ляву, з удзячнасьцю прымаюць аддадзенае цягам жыцьця... Землятрусы вяртаюцца ў зямныя нетры, і паўстае зьнішчанае імі. Дрэвы перацякаюць у семя і вырастаюць у продкаў, бясконца працягваючы круціць назад кола гісторыі. Слова, самое паняцьце слова, і які б там ні было рух наперад проста перастаюць існаваць. Толькі непадуладны дух ружы вядзе схопленага ўвысь, але ці тое — наперад, ці —назад, ніхто адказаць ня можа... І так ёсьць. І так было заўсёды. І так будзе вечна, пакуль сусьветны енк не застыне ў апошнім сутаргавым, напоўненым салодкай стомай і прагай жыцьця стогне на жаночых вуснах...

Далёка не шуляк ужо трапіўся ў палон, і ружа адгукалася на ягонае бессэнсоўнае буркатаньне. Гаспадыня ружы толькі цяпер пачула небясьпеку, але ўжо й сама ня была пэўная ў сваіх жаданьнях...

Далёка не шуляк мала ведаў, а можа, і ня ведаў зусім пра патаемнасьці каханьня. Прадчуваньне кіравала геніем пяра і ўладаром сьвету. Дробненька пераступаючы па кветкавым дыване, прыкуты кругляччкамі маленькіх вачэй да ружы, ён правёў гладкім бокам сваёй дзюбкі па пялёстках, і тыя адгукнуліся: шуляк прыўзьняўся і шпарка злунаў на кветку... Карані пачулі магутны, бясконцы, пульсовы вадаспад жыцьця. Яны купаліся, нырцавалі ў гэтых абложных струменях, гатовыя захлынуцца, але не адпусьціць...

Увесь гэты час у заплюшчаных вачох Гаспадыні стаяў той, якога яна ўбачыла зраньня, калі першыя промні сонца крануліся водаў рэчкі і блядым сьвятлом адбіліся ад чыстай паверхні прытупленага, але ўсё яшчэ ваяўнічага мяча рымскага Легіянэра.

Колькі бязьвіннай крыві праліў ты на сваім шляху. Колькі ружаў схілілі свае галовы перад непазьбежнасьцю твайго наскоку. Магчыма, каб не яны, шлях твой да Ярданскіх водаў быў бы нашмат карацейшым, а меч — вастрэйшым. Але затое не было б той спакойнай разважнасьці, той неабходнай веды пра даўжыню асалоды, якой здольны і спрактыкаваны можа зь лёгкасьцю кіраваць, дбаючы і пра сябе, і пра сустрэнку...

У той вечар Гаспадыня чакала Легіянэра, а ружа — мяча. Магчыма, што так яно ўсё й было. Магчыма, не, і тады мой пераказ вядомай гісторыі — праўда... Як праўда і тое, што народжаны хлопчык быў, як дзьве кроплі вады, падобны да рымскага ваякі...

7.

Сьвет прыдумаў гэтаму прыгожую назву: плягіят, гэтак падобны для мяне на гіяцынт, а ўжо плягіятар — глядыятар — зусім неаспрэчна. Так. Я скраў чужы твор. Якая розьніца, сьвядома ці не. Каму лепш, што пра тое ніхто ня ведае? Я — ведаю. Я — не ніхто? Абрыдлы, апрыкралы самому сабе — не ніхто? О, нішто так высока ня ўзносіць чалавека, як ягоная ўласная дурнота. Калі гэта сказаў я, то можна лічыць, што ад жыцьця была хаця б якая-небудзь карысьць. Вось толькі — каму?

Дурнаватае пытаньне. Яно пацягнула за сабой шэраг іншых, і сьвет перастаў здавацца такім прывабным. Потым людзі казалі рознае. Літаратуразнаўцы й дасьледчыкі шукалі адказу паўсюль: ад высокіх матываў да нізкіх прымітываў... Абывацелі недаўменна пацікалі плячыма: чаго яму не хапала? За імгненьне да таго, як абрынуцца ў бездань, я ўбачыў хлопчыка, які, як сказала б мая маці: "Усе драбочкі за табой падабраў". Тое, што гэта быў ня я — пэўна. Хіба што мая кудлатая каханка аднойчы ўсё ж, дай Божа — не са мной, заплюшчыла вочы.

8.

Ляп, ляп, ляп-ляп-ляп... Дзядзька перастаў ляпаць і азірнуўся. Я чакаў гэтага, і мне стала радасна. Дзядзька ляпаў за мной. Ён ляпаў маім голасам. Ён краў мой твор. Да канца засталося ўсяго — нічога, але хай думае сам. "Чаму ты перастаў успамінаць?" Я хачу бачыць тату. "Ён за сталом". Той не называе мяне сынам. "Той — называе". Чаму я ня чую? "Бо ён —гэта ты, а ты — гэта ён". Але чаму я ня чую?! "Заплюшчы вочы"...

Сьвятло згасла.

*2-3 верасьня 1995 г.*

*Прага*

весялосьці. Ды пракляты быў гэны дзень, калі яна пабачыла, пакахала й пабралася з мастаком. Ён, палкі, улеглівы, жорсткі, меў ужо каханку ў сваім мастацтве; яна, дзяўчына найрадчэйшага хараства, ня меншае мілавічнасьці, як весялосьці; уся — сьветліня і ўсьмешкі, і дурасьлівая, як маладзенькая казуля; закаханая й замілаваная ўва ўсе рэчы, ненавідзячая адно мастацтва, што было ейнай супараткай, яна жахалася адно палітры й пэндзляў ды іншых пракудных снадзіваў, што адбіралі ад яе ласку ейнага каханка. І было гэтак жудасна гэтай жанчыне чуць ад мастака пра ягонае жаданьне намаляваць партрэт і свае маладое каханкі. Ды была яна пакорная й слухмяная і праседзела рахмана шмат тыдняў у цёмным пакоі высокае вежы, дзе відно падала на белую палатніну адно згары. Але ён, мастак, заглыбіўся ў сваю працу, што цягнулася з гадзіны ў гадзіну, з дня ў дзень. І ён — палкі й дзікі, і наравісты чалавек, спаглынуты сваімі летуценьнямі, — не хацеў бачыць, што відно, якое падала гэтак панура ў тэй адзінотнай вежы, нурыла здароўе й настроі ягонай каханкі, што чэзла ўвачавідкі для ўсіх, ды не для яго. Адылі яна ўсьміхалася і ўсьцяж усьміхалася, не наракаючы, бо яна бачыла, што мастак (які меў вялікую славу) знаходзіў палкую й палючую прыемнасьць у сваім творы ды працаваў дзень і ноч, каб намаляваць тую, што гэтак кахала яго, але й што дзень, то ўсё больш слабла й падала на духу. Дый запраўды, некаторыя, што аглядалі партрэт, казалі пра ягонае падабенства ў ціхіх словах, як пра магутны дзіў і довад ня меншае мастаковае магуты, чымся ягонага глыбокага каханьня да таго, каго ён маляваў гэтак дасканальна. Адылі пад канец, калі ўжо праца бліжылася да свайго завяршэньня, ніхто не дапушчаўся ў вежу, бо мастак аж зьдзічэў у захапленьні сваім творам, і рэдка адрываў свае вочы ад палатніны, нават каб з увечай зірнуць на сваю жонку. Ды ён і не хацеў бачыць таго, што тыя фарбы, якія клаў ён на палатніну, выціскаліся з шчокаў яе, што сядзела каля яго. І калі прамінула шмат тыдняў і мала ўжо засталося зрабіць, хіба мазок пад ротам і рыску над вачыма, дух жанчынін усьпырхнуў ізноў, як полымя ў камінку лямпы. І тады даўся мазок, і тады паклалася рыска; і на мамэнт мастак замёр перад творам, што ён стварыў; ды зараз жа, яшчэ ўзіраючыся, ён затрымцеў і вельмі зьбялеў, і жахнуўся, ды закрычэў на ўвесь голас: "Гэта ж запраўды само жыцьцё!" — павярнуўся раптам, каб прыгледзецца да свае каханае — яна была памершы!"



# СЫХОД ПРАРОКАЎ

Сказаць, што літаратура і філязофія сталіся сёньня, калі прарокі зьніклі амаль з усіх раёнаў зямлі, рэзэрвацыяй няспраўджанай фанабэрыі — мала, нават калі дакладна акрэсьліць розьніцу між катэгорыямі няспраўджанага і нязбытнага. Гэтак жа, як позна казаць, што "з цэлым народам гутарку весьці, сэрца мільёнаў падслухаць біцьця" немагчыма, бо прарок не для ўсіх, але для нешматлікіх, хоць сэнсу ягоных словаў ня будзе канца.

Няма на сьвеце нічога больш супраціўнага мысьленьню і Богу, чым забабонная і вар'яцкая вера ў магію лічбаў. Прароцтва —гэта не мэханічны і не матэматычны гвалт над рэчаіснасьцю. Няма болей сьмешных людзей, чым тыя, што са стагодзьдзя ў стагодзьдзе складаюць ды аднімаюць, абы нарэшце атрымаліся шасьцёркі або дзявяткі, або сотні...

У 1891 годзе нехта выдаў "Дудку беларускую". У 1896 годзе яна была перавыдадзеная. У 1991 годзе пачаўся новы спосаб існаваньня Беларусі. У 1996 годзе, калі беларусы (папярэдне апісаныя непрарокам Шалкевічам у 86-м), ня выцягнуўшы рук з кішэняў, назіралі за самаўпэўненасьцю генэрал-губэрнатара, нейкі апошні беларускі прарок, як мне сказалі, займаўся калекцыянаваньнем уласных грахоў. Недарэчна ў такой сытуацыі пытацца, чым жа пажадана займацца прароку, і тым больш казаць пра стагодзьдзе "смутнага граньня", якое пачалося з "гэй, ляці, кабыла, хоць ты падарвіся"... Ці можа гаворка ісьці таксама пра стагодзьдзе перавыданьня: уплываў, перайманьняў і насьледаваньняў? Бадай, не. Праблема ў тым, што амаль гатовую "Лютню беларускую" Багушэвіч так і ня выдаў, засяродзіўшы сваю традыцыю на "дудцы" і "смыку"; пры гэтым ён памёр зусім ня так, як паміраюць у 27 гадоў, у белым доме ля сіняй бухты, з кніжкаю ў руках і суніцамі на стале, рашуча аддзяліўшы сябе ад перавыданьняў, падводзячы рысу пад дыскурсіўнасьцю і адбіваючы ахвоту пераймаць. Багушэвіч сышоў, не стварыўшы за сабою адхону.

Прарокі нярэдка выходзяць за вызначаныя людзьмі палі дазволенасьці, у тым ліку і за межы, вызначаныя калянізатарамі для культуры паняволеных — гэтак лічыцца. Прарокаў адкрэсьліваюць ад жыцьця. Прароцтва адбываецца аднойчы і назаўжды. Прароцтва – ня з эпасу. Эпас бесьперапынна ўзнаўляецца, трансфармуецца, ён не абмежаваны ў мінулым, тады як прароцтва не абмежаванае ў будучыні. Эпас мае мэту. Прарокі ж прамаўляюць таемна, дзеля невядомых мэтаў; прамаўляецца праз іх, але часта насуперак ім. Прарок не адэкватны сучаснасьці, ён велічна – пабожна ці разгублена – стаіць перад будучыняй. Ягоныя словы будуць спраўджвацца заўсёды. Сэнс ягоных словаў ня мецьме канца. І ня ён, далібог, ня ён, толькі ягоныя словы адпавядаюць Таму, хто гаворыць праз яго. Так лічыцца. Прарок – ня фільтар рэчаіснасьці, ня той, хто прапускае праз сябе яву, вымываючы зь пяску дзён крупінкі вечнасьці. Прароцкі тэкст нараджаецца ў таямнічай прасторы, дзе значэньне і красамоўства – не супернікі. Гэтак лічыцца.

Чаму ж цяпер прарокі сыходзяць? У пэўным сэнсе сёньня хуткасьць сьвету пераўзышла хуткасьць сьвятла. У такіх умовах будучыня не гарантаваная, а прарокі ня створаныя для сьпеху. Калі б сёньня і зьявіўся ў нашай частцы сьвету прарок, ён не знайшоў бы сабе чытачоў і слухачоў. Прарок апынуўся б у становішчы чарапахі, якая даганяе Ахілеса. Сьвіткі з прароцтвам не пératвараюцца ў палімпсэсты, а цяпер эпоха палімпсэстаў*. Прарокі не карыстаюцца цытатамі, а цяпер – эпоха цытатаў.

Мала сказаць, што пісьмо сёньня нагадвае разважаньні пасажыра экспрэса Масква-Брусэль пра розьніцу ва ўзроўні жыцьця на станцыях Негарэлае і Пагарэльцы. Сёньня зьмянілася нашмат больш. Творцы – а я маю на ўвазе перадусім паэтаў, празаікаў і філёзафаў – доўгі час гадаваліся з гонарам за свой неапошні прывілей, за манаполію на прароцтва, але, калі зірнуць на гісторыю, не заўсёды такая манаполія належала ім. Вось жа, мы ня можам сказаць, ці прарокі сыходзяць назаўжды, ці ў хуткім часе будзе ГАВАРЫЦЦА ПРАЗЬ некага іншага. Нам гэтак карціць знайсьці прарокаў, хоць мы й жывем у пару, калі існаваньне ператвараецца ў люстэрка віртуальнай рэальнасьці. Але ўвогуле, ці былі калі-небудзь творцы прарокамі? Або ў большасьці выпадкаў гэта быў толькі імідж, умела і штучна створаны, каб задавальняць чалавечую патрэбу ў сталым кантакце з Адкрыцьцём, з "праўдай", і творцы – у прыватнасьці, з XVIII ст. – пачалі прырастаць да маскі сваёй уяўнай "выбранасьці", верыць у свой асаблівы статус, а нават у тое, што не праз іх гаворыцца, а яны, уласна яны, гавораць? Паўстае пытаньне, ці Дастаеўскі і Кафка, Шаўчэнка, Пушкін, Умбэрта Саба і Ян Багаслоў і – тыя, каго мы ахвотней за ўсё асацыюем з "сучаснымі прарокамі", сапраўды пісалі па трансцэндэнтным натхненьні. Ці ня ёсьць прароцкасьць насамрэч ня ўнутранай уласьцівасьцю таго ці іншага слова ці тэксту, а вартасьцю, прыпісанай ім нашым мысьленьнем, нашымі інтэрпрэтацыямі? Вось чаму, магчыма, дакладней было б казаць пра адпаведнасьць прарокаў не "Таму, хто гаварыў праз іх", а "тым, што слухалі праз іх", хаця б у дачыненьні да прарокаў ад пісьма.

"Гучны стук у дзьверы. Жах. За дзьвярыма шляхцянка з парасонам. Усе на момант аслупянелі, кавалак памідора ў алеі ляскае з бацькавага відэльца на стол. Цішыня. Пасьля ўсе паціху зноў пачынаюць есьці і ядуць усё хутчэй і хутчэй. Раптам раздаецца піск. Зяць кідаецца пад канапу, выцягвае пастку з мышшу, якой прышчаміла хвост. Зяць нясе пастку зь піскучай мышшу паўз гледачоў. Сям'я дзіка радуецца, абдымаецца і, нарэшце, скандуе: "Тра-пі-ла!" Шляхцянка з парасонам стукае ў другі раз". Што гэта будзе? Відавочна, драма. Прарокі мусілі б сысьці разам са страхам перад заўтрашнім днём. Але прарокі скончваюцца, а страх жыве. Відавочная драма не настолькі старая, каб не вярнуцца. Прынамсі, у нашых краях.

Ставіць сябе за прарокаў было пачэсна. Вэрмэер заўсёды выклікаў лёгкую пагарду (і кроплю зайздрасьці). У сытуацыі, калі будучыня стала недаступнай, калі ніхто праз творцаў не гаворыць (альбо ніхто праз творцаў ня слухае), нешта падбухторвае іх пакрыўджана замаўчаць. Але хіба іх сёньняшняе маўчаньне, нібы маўчаньне Радамэса перад жрацамі, не даказала б іх здраду? Хіба не даказала б яно іх несумленнасьць перад Богам і мысьленьнем? Бо маўчаньне расчышчае дарогу старым драмам. Творцы – болей не прарокі. Трэба, мабыць, адмовіцца ад прэтэнзіяў на валоданьне сутнасьцямі, расплюшчыць вочы; мусіць, пара зажыць пры абвесным ладзе, імкнучыся да адэкватнага адказу на страшным судзе цяперашняга часу. Мусіць, ня варта маўчаць.

**Андрэй Дынько**

**Кажучы пра эпоху палімпсэстаў, напрыклад, я маю на ўвазе не эпоху ў разьвіцьці цывілізацыі (абсурдна было б казаць пра палімпсэсты ў сучасных тэхналёгіях і г.д.), а ў разьвіцьці той імпэрыі культуры, што асабліва яскрава акрэсьлілася, сьцьвердзілася і арганізавалася на працягу апошніх 300 гадоў і якая ведае сваю сыстэму каардынатаў, свае вартасьці й паняткі, сваю эвалюцыю.*

# ЭЛЕКТРЫЧНАЕ СЛОВА

## Свэн Біркерц адказвае на эсэ Вэна Стэфэнсана, прысьвечанага ягонай кнізе "Гутэнбэргавы элегіі"*.

Шаноўныя рэдактары,

Зь вялікім задавальненьнем прачытаў яркі і канцэптуальна акрэсьлены агляд маёй кнігі "Гутэнбэргавы элегіі". Лёс чытаньня ў Электронную эпоху". Ня гледзячы на цікавасьць ад чытаньня, мушу не пагадзіцца зь некаторымі думкамі, выказанымі спадаром Стэфэнсанам.

Я мог бы адказаць на кепікі Вэна Стэфэнсана іншымі кепікамі, але захаваю іх на іншы выпадак. Я лепей спынюся на тым, што, на маю думку, ёсьць ключавым пунктам розьніцы ў нашых падыходах.

Ён заключаецца ў наступным: сп. Стэфэнсан ня лічыць, што сродак перадачы інфармацыі, праз які перадаецца слова, можа выклікаць зьмены фундамэнтальнага характару. А я настойваю, што можа. І паколькі сп. Стэфэнсан у сваім эсэ пералічыў асноўныя палажэньні маёй пазыцыі, то я ня стану тут іх паўтараць. Дазвольце мне адразу перайсьці да ягонага заключнага гарматнага стрэлу, дзе ён сьцьвярджае, што зьмест пасланьня пасьляхова перажывае перамену сродкаў яго перадачы. Сп. Стэфэнсан піша: "Я пераходжу на "закладзеную" раней старонку, дзе бачу верш, што круціўся ў маёй галаве на працягу ўсіх тых дзён, якія мінулі ад таго, як я знайшоў на Інтэрнэце архіў ірляндзкай паэзіі. Я адкрываю захаваны на дыску гукавы файл, і праз дынамікі майго кампутару пачынае гучаць мяккі ірляндзкі голас Сімуса Хіні. Усьлед яго голасу я вяду вачыма па набраных радках ягонага верша... Што адбываецца, калі я чытаю ці слухаю верш? І ці важна, як ён да мяне даходзіць: праз голас, праз кнігу, ці праз кампутар? Таму я загружаю ў кампутар вершы Хіршфільда і Хіні і раздрукоўваю іх на паперы, каб пачытаць у цягніку па дарозе дадому".

Безумоўна, сп. Стэфэнсан гуляе тут чыста літаратурнымі вобразамі, калі гаворыць пра сваю схільнасьць да ўсіх сродкаў перадачы вершаў: запаміненьне ("верш, што круціўся ў маёй галаве"), друкаваньне ("раздрукоўваю іх на паперы"), электронныя ("як я знайшоў на Інтэрнэце архіў ірляндзкай паэзіі") і электронных мультымэдыя ("я адкрываю захаваны на дыску гукавы файл"). Іронія заключаецца ў тым, то верш Хіні "Песьня" можна ўспрымаць выключна зрокава — чытаць, а не пракручваць яго ў галаве, на дыску ці якім-небудзь іншым спосабам.



Напэўна, сп. Стэфэнсан адкажа на тое, што незалежна ад гэтага ягонае асабістае ўспрыманьне Хіні грунтуецца на ўспрыняцьці энэргіі, што сыходзіць ад ягонай паэзіі, усё адно як ток цячэ ад аднаго проваду да іншага, пры ўмове, што яны злучаныя паміж сабою. Інакш кажучы, сродак перадачы выконвае выключна функцыянальную ролю і нічога іншага.

На гэта я заўважу, што літаратура факусуе сваю ўвагу галоўным чынам на прыватных і сацыяльных акалічнасьцях асобы, і ў гэтым сэнсе яна фундамэнтальна адрозьніваецца ад электронных сыстэмаў, што маглі бы яе захоўваць і даносіць. Той сьвет, што існуе на электронных старонках "сусьветнага павучыньня" Інтэрнэту, надзвычай далёкі ад сьвету, што існуе ў кнігах. Аспрэчваць гэта — тое ж самае, як казаць, што аўтамабіль ня мае анініякага ўплыву на прыроду, бо здольны дастаўляць нас у больш аддаленыя месцы, чым калісьці.

Дрэва, да якога мы падыходзім пешкі і бачым яго — зусім ня тое ж самае дрэва, калі мы бачым яго, набліжаючыся на машыне, хоць фізычна яно застаецца тым самым дрэвам. Словы "Песьні" могуць заставацца тымі самымі незалежна ад сродку іх перадачы, але розныя сродкі перадачы ставяць нас у цалкам розныя дачыненьні з словам. Слухач, несумненна, мае карысьць ад пачуцьця прысутнасьці і імгненнасьці. Чытальнік тых самых радкоў перайтварае тое самае друкаванае слова ва ўспрымальныя вухам гукавыя сыгналы. А для таго, хто счытвае тэкст з экрану манітора, існуе, напэўна, падсьвядомае адчуваньне, што словы прайшлі праз алхімічны працэс перайтварэньняў падчас іх падарожжа ў электрычных схемах. Тое самае слова, але... Ці гаворым мы, што тое, што надрукавана на паперы, ідэнтычнае лічбава апрацаванай выяве на экране манітора, што выява існуе незалежна ад яе кантэксту? Не, нейкім няўлоўным чынам мы ўсьведамляем, што працэс перадачы сам зрабіўся часткай зьместу (пра гэта добра піша Бэнджамін у кнізе "Творы мастацтва ў эпоху мэханічнага памнажэньня"). Верш Хіні, напісаны ад рукі на аркушы, і той самы верш, накрэмзаны на воску, будуць па-рознаму ўспрынятыя чытачом. Гэта не азначае, што спрактыкаваны і сур'ёзны чытач (а я веру, што сп. Стэфэнсан —адзін з такіх) ня можа адкінуць прэч зьнешняе шалупіньне і здабыць для чытаньня ў чыстым выглядзе слова як такое. Але для гэтага патрабуецца дысцыплінаванасьць і вялікая ступень дасьведчанасьці — тое, чаго звычайна бракуе шараговаму чытачу.

Мне шкада, што я не магу выкласьці да канца сутнасьць усяе справы ў некалькіх неабвержных аргумэнтах. Аднак усе мы знаходзімся пад узьдзеяньнем бязьлітасных законаў зямнога прыцягненьня. Я магу выключна прыводзіць довады, што, як я мяркую, могуць зразумець мае чытачы/крытыкі. Я скажу, што як толькі людзі зразумеюць, што сам сродак перадачы інфармацыі непасрэдным чынам уплывае на само пасланьне, тады давядзецца вельмі сур'ёзна перагледзець усю электронную трансфармацыю грамадзтва.

**З павагай, Свэн Біркерц**

**Падрыхтаваў Уладзімер Баранч**

** Працяг інтэрнэтаўскае палемікі, фрагмэнты якое друкаваліся ў папярэдніх нумарах "НН".*

# Уцёкі падарожныя

— Табе гэта трэба? Толькі шчыра, як самому сабе... Дваццацігадзінавая дарога, чаканьне ў аэрапорце, мытня, памежнікі, вада, што цурком ліецца зь лямпачак у самалёце 1968 году вытворчасьці, рызыка забіцца... Няўжо нельга спакойна?

— А я спакойны. Разьвіднела. Залацісты золак у Каіры. Апошні дзень 1996 году. Сьвежасьць раніцы...

— І пыл. Нават сонечныя промні ў Каіры пыльныя. Сьвятло пыльнае. Хвалі вялікага Нілу папяловыя, і калі пыл можа быць вадкім, — яны пыльныя. Архітэктура ўся зьлепленая з гразі й бруду. Нават бязносы Калос фараона Рамсэса на прывакзальным пляцы — ні што іншае, як пылавы слуп. Адзінае, на што ён здатны, гэта нагадваць пра сваіх дзьвесьце дзяцей і чатырох жонак, якія ўвадначасьсе былі й дочкамі.. Няўжо Афрыку можна прымаць за эталён этыкі й эстэтыкі?..

— Можна. Як можна спачуваць дзяўчыньцы, якую званітавала на твае джынсы й красоўкі. Яе ўхістала ў самалёце, вантробы сьціснула сутарга, страўнікавы сок выпаласкаўся на цябе. Ніякіх абурэньняў. Суперажываньне. Нават выбачэньні змучанай маці недарэчныя...

— Дзіцячыя ваніты нішто ў параўнаньні са стотысячагадовым брудам Афрыкі. Брудам, зь якога каірцы будуюць гарады мёртвых — купалы, мінарэты, сьцены бяз вокнаў...

— Каір — горад тысячы мячэцяў. У Каіра ажурная панарама, далікатны абрыс. Колеры вытанчаныя — срэбныя, залацістыя, блакітныя...

— Асаблівай гармоніяй павявае ад вайскоўцаў у чорных барэтах з кулямётамі на плячы. Яны прыгожа глядзяцца пад пальмамі на скрыжаваньнях і на гатэльных ганках, немагчыма не спыніцца й не палюбавацца белымі скуранымі гетрамі. Нават ня верыцца, што салдат адказвае ўсьмешкай на ўсьмешку. Зрэшты, іх прысутнасьць у людных месцах павінна супакойваць іншаземцаў. Тэрарызм ня пройдзе! Нібыта ісламскія баевікі змагаюцца з узброенымі адзінаверцамі.

— Памылка. Тэрарыст змагаецца за абстрактную ідэю, матэрыяльныя ахвяры — адно доказы веры й моцы. Чым болей ахвяраў, тым лепей тэрарысту. Таму зь ліку магчымых забітых не выключаюцца ні дзеці, ні жанчыны, ні адзінаверцы, ні ён сам. На жаль, наяўнасьць тэрарыстаў у мусульманскім сьвеце — рэч непазьбежная. Бо згодна з думкай Альбэрта Савініа, араб існуе ў дзьвюх постацях: або ў стане агню й ваяўнічасьці, або сьпіць. І калі араб-мусульманін прачнецца ў краіне, дзе няма баявых дзеяньняў, ён імгненна апынецца ў таемнай групе якіх-небудзь "шэрых ваўкоў" ці "мсьціўцаў". Толькі не дзеля вывучэньня тэрарызму сэміцкіх народаў я пакінуў Менск. Нашмат цікавей назіраць за афрыканскімі жанчынамі, што носяць клункі на галаве. Зьдзіўляе ня тое, што яны шпарка, подбегам ідуць, а клункі ня падаюць. Дзівіць, як увесь час яны круцяць галовамі, зіркаюць на ўсе бакі, а клункі, як прылепленыя, сядзяць на цемені.

— Яшчэ б ім не азірацца, калі ў шаснаццацімільённым Каіры не працуе ніводзін сьвятлафор і адсутнічаюць дарожныя знакі. Ад сыгналаў можна аглухнуць. На дарозе той мае рацыю, хто больш нахабны, у каго больш моцныя нэрвы, для каго жыцьцё ні сваё, ні чужое нічога не каштуе. А іх машыны?! Іржавыя, папабітыя, у маністах непатрэбных лямпачак. За рулямі сядзяць зомбі. І яны яшчэ называюць тых, хто ўжывае алькаголь — зомбі. Думаюць, калі ня п'юць, дык і сьвятлафоры з указальнікамі без патрэбы. Чарната. Цемрадзь. Каб машыны не разганяліся, яны насыпаюць упоперак дарогі асфальтавы бугор. Ня спынісься. Наскочыш. Заб'есься. Такія правілы ў царстве мёртвых ці ў мёртвым царстве Каіру. Ты хацеў уцячы ў такі сьвет?

— Не. Мяне вабіла іншая дарога й іншы транспарт. Жадалася на свае вочы ўбачыць чаўны, у якіх фараоны накіроўваліся ў вечнасьць. Каменныя саркафагі не расчаравалі. Камяні ў Каіры цёплыя. Можа таму ягіпцяне верылі, што душа можа вярнуцца ня толькі ў мумію, але ў скульптуру, калі мумію зьнішчаць ці скрадуць ворагі.

— Ты ж ня верыш ні ў несьмяротнасьць душы, ні ў перасяленьне душы ў каменную ці драўляную цацку. Як ня верыш эмансыпаванай экскурсаводцы, што падкрэсьлівае сваё падабенства з царыцаю Ніфэрціці, чый партрэт можна паглядзець у Бэрліне. Ты ж адмовіўся ехаць у Бэрлін. Цябе панесла ў Афрыку — чужую, варожую й заразную...

— Цікава пабачыць чужое. Апрыклі нos равы роднай краіны. У Эгіпце я не разумею хлусьню палітыкаў. Яны могуць пагражаць і прасіць, патрабаваць і заклікаць да розуму й сумленьня, мне да лямпачкі. На чужыне лёгка быць індыфэрэнтным да палітычнай сытуацыі. А трубныя галасы муадзінаў, што па пяць



разоў на дзень гучаць з дынамікаў і мінарэтаў, уяўляюць адно музычную каштоўнасьць. Музыка мусульманскае прасторы салодкая, як сьлівовы сыроп; калі не перабіраць дозы, вельмі прыемная...

— А перабярэш, і стане млосна. Усходнія слодычы занадта канцэнтраваныя для дыэтычнага страўніка. Яшчэ ў Менску цябе напалохалі страўнікавымі хваробамі, якімі аславіўся Эгіпэт на ўвесь сьвет. Да тысяча дзевяцьсот пяцідзясятага году сярэдні ўзрост новага жыхара з горада мёртвых быў сорак пяць. Няшмат, пагадзіся. А калі ўлічыць, што жанчыны жывуць даўжэй за барадатых супляменьнікаў, твой шанец падхапіць якую трасцу вельмі вялікі...

— Ня буду спрачацца. Ня буду піць ваду з-пад крана ў гатэлі. Стаміўся. Стома спараджае псыхоз. Спрэчкі лёгка перарастаюць у гістэрыкі. А я ведаю: з убоствам любога гатэлю звыкаесься, як толькі адасьпісься з дарогі. У першыя хвіліны пасьля засяленьня "здаецца" забіў бы суправаджальніка за плямісты ручнік, за кепскі тэлевізар, за непадмеценае кілімнае пакрыцьцё на падлозе... Перастома выяўляецца ў агрэсіі. А некалькі гадзінаў сну, вячэра, кава, цыгарэта — і ты лагодны, і сьвет прывабны.

— Нават пасьля адпачынку бачыш у Каіры недабудаванасьць ці, хутчэй, паўразбуранасьць, гэткі Нью-Ёрк пад час рэвалюцыяў ці Токіо пасьля бамбардаваньня. Наяўнасьць аўтаматчыкаў тлуста падкрэсьлівае напружаны стан напярэдадні грамадзянскай вайны. У Каіры ўсё дзеецца пад руляю. Стыль жыцьця. І назва Каір на зразумелай мове азначае Марс — бог вайны. А самае арабскае з усіх нашых словаў — цытадэль.

— І я бачыў тую казачную цытадэль Салаха Аль-Дзіна. Напэўна, каб зараз узяць такое абарончае ўмацаваньне, спатрэбіцца не адна тысяча байцоў. Залатыя вежы і муры, над якімі плыве купал і мінарэты мячэці Мухамада Алі. Казкі тысячы й адной ночы гучалі тут, пісаліся тут і тут застаюцца жыць. Толькі сьвятло казак хісткае й няпэўнае, як агеньчыкі сьвечкі ў калідорнай цемрадзі, а словы Карану важкія й грунтоўныя, выразаныя з алебастра на ветразях і калёнах сабора вялікага вая ра Алі, што выгнаў з Эгіпту войскі Напалеона. Мухамад Алі — альбанец, заснавальнік апошняй каралеўскай дынас-



Адам Глёбус

# ў Эгіпэт

## *спрэчкі*



тыі ў Каіры...

— Ягоны апошні нашчадак уцёк у пяцьдзесят трэцім у Італію, прыхапіўшы сто валізак з каштоўнасьцямі. Эгіпэт падобны да Італіі тым, што ў Рыме жывуць рымляне, якія ня маюць аніякага дачыненьня да велічы старажытнай Рымскай імпэрыі, а ў Эгіпце пражываюць ягіпцяне, для якіх багі Ра, Анубіс і Нут — толькі выявы на сувэнірных цацках. Няма таго, што раньш было. І толькі рэшткі, сколкі, аскепкі нагадваюць пра немінучую сьмерць і зьнішчэньне ўсяго і паўсюль...

— Няпраўда... У Эгіпце захаваліся нашчадкі цывілізацыі, і хай яны хрысьціяне і мова іх гучыць толькі ў царкве й на ўроках слова Божага, але яна ёсьць. Копцкая мова, што пасьля шэрагу трансфармацыяў і кампактаваньняў, дайшла да нашых дзён ад часоў Хеопса, існуе. Прысутнасьць хрысьціянскіх купалоў з крыжамі сярод мячэцяў, мінарэтаў, гатэляў і навабудоўляў усьцешвае. Сантымэнт і ёсьць сантымэнт. Прыемная й згадка пра час: у Эгіпце й Беларусі адзін часавы пояс. Дробязь, здаецца, а прыемна, лежачы ў гатэлі Каіратэль у пятнаццаць пяцьдзесят восем, думаць, што ў Менску таксама пятнаццаць пяцьдзесят восем, і хутка Новы год...

— Сантымэнты... А згадай, як сумняваўся, што цеплаход адплывае ад прычалу, такі нягеглы...

— Але ж адплыў і ўсю навагоднюю ноч плаваў па Нілу паміж Гізаю й Каірам. Музыка. Вясёла. На верхняй палубе было ветрана, сьвежа й рамантычна. Асьветлены навагоднімі агнямі горад не прыгнятае. Знайшлося ўтульнае крэсла: можна было пасядзець і напісаць колькі нататак пра падарожжа...

— Ты ўвесь час гаворыш пра станоўчае, а я пярэчу, і выходзіць, што ў мяне крывое вока, але гэта ня так, і вось доказ — твае запісы, зробленыя на цеплаходзе, паслухай іх...

У самалёце, як і ў кожным самалёце, што ляціць на Новы год у Афрыку з прастораў СНГ, трапілася дэкаратыўная банда з важаком у чорным незашпіленым палітоне з настаўленым каўняром. Твар у завадатара артыстычны, з такім можна атрымаць ролю ў Галівудзе. Памагатыя — з важкімі кулакамі й кароткімі стрыжкамі — мелі ня менш тэатральны выгляд за сваіх дзявуль з залівістым паказным сьмехам. Чарнаскураным выглядам бандыты імкнуліся нагнаць страху на падарожнікаў, не атрымлівалася; бо найжахлівы з бандытаў не вылучаецца з наўтопу. Страшны гангстэр, згодна з статыстыкай, мае затрапезную зьнешнасьць, ціхі голас і аўтаматычную зброю. На пачатае пярэчаньне выхопліваецца вальтэр. У бэрлінскай кавярні чацьвёра рэкеціраў кладуцца на падлогу. Яны хацелі аднаго: папалохаць, нагнаць страху... Трох ён забівае, аднаго калечыць на ўсё наступнае жыцьцё. Праўда, сам трапляе ў турэмную лякарню з прастрэленым навылёт пахавіньнем і дзьвюма кулямі ў сьцягне. На судзе гангстэр выкарыстоўвае сваю занядбаную зьнешнасьць і бясконца паўтарае, што выпадкова апынуўся ў кавярні, дзе пачалася перастрэлка. Яго паранілі. Ён у запале схапіў пісталет, што валяўся на падлозе, і пачаў адстрэльвацца... Ніякіх бандытаў ня ведае. Прысуд — пяць гадоў зьняволеньня — не прызнае і абвяшчае ў знак пратэсту галадоўку. Працаваць у турме не зьбіраецца. У параўнаньні з такім галаварэзам, спадарожнікі ў Эгіпэт выглядалі досыць мірнымі...

— Чаму спыніўся? Ці далей пайшло станоўчае і твой язык не паварочваецца казаць добрае пра арабскі сьвет? А далей былі запісаныя правілы паводзінаў мусульманіна. У мяне ні разу ня ўзьнікла жаданьня прыняць іслам, але правілы паводзінаў змагароў з крыжакамі запомніў: няма Бога акрамя Алаха і прарока ягонага Махамэда, пяць разоў на дзень маліся ў вызначаны час, раз на год трымай пост на працягу месяца, аддай бедным два адсоткі ад грошай, што год праляжалі бяз справы й не абярнуліся, раз у жыцьці зрабі паломніцтва ў Мэку...

— Пасьля ўцёкаў у Эгіпэт пойдзеш у Мэку? Не паверу. І ня пусьцяць. Памятаеш, у Каране... Няверныя з тых, хто ведае Пісаньне, і з шматбожнікаў будуць у вагні пякельным і застануцца там назаўсёды. Яны — найгоршыя з стварэньняў... З разьдзелу Відавочнае. А ты пачытваеш Каран не дзеля ўмацаваньня веры ў Алаха, а толькі дзеля забавы. У Эгіпэт уцякаеш не ад ворагаў, а каб разьвеяць сум, парушыць манатонную плынь часу, адпачыць... А што знаходзіш? Вярблюдаў, якія спраўляюць патрэбы на піраміду непараўнальнага Хеопса. Ты ляціш за тры тысячы кілямэтраў, каб пасьлізнуцца на сікунах у Гізе і падзівіцца зь вярблюдзіхі... Яна таксама пасьлізнулася, цыбатыя ногі разьехаліся й цыган, перапрануты ў бэдуіна, паляцеў на вільготныя камяні. А які рэзкі, сухі голас у гарбатай істоты! Цыган біў яе. Вярблюдзіха, укачаная ў гной, крычала. Ты ўцякаў ад іх, ад пірамідаў, ад пустэльні...



— Ва ўяўленьнях я заўсёды знаходзіўся каля пірамідаў адзін. Пустэльня. Неба сіняе. Жоўтыя пяскі. Залацістыя піраміды Хеопса, Хефрэна й Мэкерына. Сфінкс. Я адзін. Хаджу. Разглядаю. Дакранаюся да пяціцысячагадовых блёкаў. Ніколі ня думаў лазіць на параміды. І раптам замест чаканай цішыні — базарная талакнеча, тысячы прыежджых і тысячы мясцовых шафёраў, гандляроў, жабракоў, дзяцей... Такога не чакаў. А таму адыйшоў як далей ад наўтопу... Дзіва сьвету мусіць зьдзіўляць. Піраміды ўражваюць. Піраміды — змаганьне чалавека са сьмерцю. Піраміды акасьцянелі, блёкі зрасьліся паміж сабою. Гледзячы на іх, разумееш, у пірамід ёсьць вялікі шанец пераўжыць усё чалавецтва. Мы сыйдзем, пераўтворымся, рассыплемся, перародзімся, а яны застануцца стаяць залатымі сонечнымі караблямі на беразе пяшчанага акіяну...

— Паэзія. Плён бестурботнага розуму. Вечнасьць. Сфінкс. А табе бліжэй Фэнікс. Вечнае ўваскрашэньне й адраджэньне, а не павялічаная да неверагоднасьці мумія ката-сфінкса. Ад сьпёкі, ад стомы, ад нахабства ягіпцянаў ля падножжа піраміды нічога ня бачыш і не разумееш. Ніводнай думкі. Суцэльная раздражнёнасьць. Нянавісьць да коней, вярблюдаў, сувэніраў, кінакамэр і фотаапаратаў...

— Адлегласьць лекуе. Чым далей ад'яжджаеш ад Гізы, тым больш значнымі робяцца піраміды. Стракатае, мітусьлівае, крыклівае шалупіньне сучаснасьці абцярушваецца, піраміды застаюцца чыстыя, крышталёвыя, матэматычныя. Арабы вынайшлі нуль, гледзячы з Сахары на піраміды. Толькі ў пустэльні разумееш як значнасьць, так і мізэрнасьць пяцітысячагадовай адлегласьці паміж сабой і Хеопсам. У пустэльні думка пра сьмерць чалавецтва не навявае суму. У Сахары пачынаеш цаніць пыл, той, які так раздражняў у Каіры. Пыл, як нішто іншае, варты ўвагі, любові й асэнсаваньня. І паўторыш тры разы: "Я пакіну пясок тым, хто існуе сярод пяскоў. Я пакіну пыл таму, хто стварае з пылу..." Паўторыш, і паедзеш далей, а піраміды застануцца стаяць і маліцца багам даляглядаў...

— Уцячэш, нідзе ня дзенесься. Сядзеш у аўтобус. Запусьціш вэнтылятар на поўную моц і накіруесься праз Сахару ў Хургаду, на Чырвонае мора. Побач з табою сядуць лётчыкі з бутэлькамі гарэлкі "сталічная". Яны п'юць штодня, праз усю вандроўку, з самае раніцы. Піць у Эгіпце даволі праблематычна. Прывезьці ў краіну можна толькі адзін літар моцнага напою. У краме дазваляецца набыць тры бутэлькі за адзін візыт, пасьля чаго ў пашпарце робіцца адзнака — ліміт вычарпаны. Але ёсьць жанчыны й дзеці, што ня п'юць, а пашпарт маюць. І лётчыкі чартарнага рэйсу, зачахліўшы стары авіяляйнэр — каб пяском не занесла —п'юць. Пілі яны й каля піраміды Хеопса, і каля Сфінкса, і пад мурамі цытадэлі Салаха Аль-Дзіна, і на парфумнай фабрыцы, і ў музэі папірусу... Лётчыкі пілі саракаградусную ў трыццаціградусную сьпёку а дзявятай раніцы ў пустэльні Сахара. Сярод пяскоў ягіпэцкай зямлі над хвалямі шарэючага Ніла стаіць камандзір карабля са шклянкаю гарэлкі ў кулаку —запамінальная карціна. І прозьвішча ў лётчыка экзатычна-геаграфічнае — Градус. "Камандзір карабля Ўладзімер Градус і экіпаж радыя вітаць Вас на борце самалёта", — гучыць добра. Можа таму без усялякае шкоды для здароўя камандзір Градус і экіпаж могуць запраўляцца гарэлкаю і каля прыдарожнай забягалаўкі "Сахара ін". Сапраўды, калі ўцякач у Эгіпэт носіць прозьвішча Глёбус, лётчык мусіць быць Градусам... З такім прозьвішчам нават можна сабе дазволіць спытацца ў араба-экскурсавода: "А што Вам, ягіпцянам, не спадабалася ў хрысьціянстве? Навошта прынялі іслам?" Водар сьвежакаўтнутае гарэлкі распаўзецца над кілімамі ў мячэці Мухамада Алі. Араб зробіцца глухім, не пачуе атрутнага для мусульманіна славянскага подыху і працягне аповед пра параметры купала. А ты засаромеесься за суайчыньніка й непрыкметна вынесеш чырвоныя вушы з чужынскага сабору.

— Сысьці ад людзей, адчуўшы сорам, заўсёды ня кепска. І калі некуды сыходзіш, дык лепш накіравацца ў пустэльню. Пясок. Сонца. Цішыня. Пустэльня супакойвае. Каб гаварыць з Богам, варта пайсьці ў Сахару. Ніхто не пабачыць прыніжэньняў, ніхто не пачуе нязграбнасьць малітвы. Няма перад кім курчыць экстаз. У пустэльні неба бліжэй да зямлі. Там рэчы набываюць акрэсьленасьць і яснасьць. Жоўтае й сіняе. Чорнае й белае. Стужка зямлі, паска мора, паска гор і вялізарны купал неба. Уначы ў пустэльні няма нічога акрамя неба. Напэўна, старажытнага чалавека неба цікавіла больш, чым сучаснага...

— Сучасьнік, суайчыньнік, супляменьнік... Усіх іх хочацца засунуць у піраміду і закаркаваць. Хіба не? Адна бойка ў самалёце на зваротным шляху чаго вартая... Вядома, замест дванаццаці ночы ў самалёт загрузіліся а чацьвертай раніцы. Верапаслухмяныя арабы сышлі маліцца, не прыбраўшы трап і не дазволіўшы адлёт. Чаканьне ў аэрапорце, дзе можна набываць таннае сьпіртное ў неабмежаванай колькасьці, прывяло да суцэльнага ап'яненьня пасажыраў. Нішто так не разбурае герархію, як алькаголь. І былы спартовец-баскетбаліст вырашыў сказаць групе бандытаў праўду ў твар. А за гэта бандыты намерыліся разьбіць твар экс-спартоўца. Арабы пайшлі маліцца. "Алах акбар!" — загучала над Эгіптам. А ў самалёце распачалася бойка. Цесна. Не размахнесься, ня ўдарыш... І чырванатвары сьцюард улез між байцамі. Ён атрымаў па корпусе й галаве з абодвух бакоў, але бойка згасла. Бойка згасае хутчэй, калі б'юць невінаватага... А пятай ТУ-134 узьняўся ў паветра, і ты заснуў цяжкім, як каменныя піраміды, сном...

— У сьне таксама лётаў. Звычайна мне лёгка лётаецца ў снах. Плыў па-над чыгуначнымі рэйкамі. Уздымаўся вышэй вышэй, пакуль палі не парабіліся зялёнымі квадратамі. Нехта сядзеў на маёй сьпіне. Маленькі, але цяжкі. Азірнуўся. На сьпіне быў скураны заплечнік. Прачнуўся з пытаньнем. А што ў заплечніку? Паўсонны розум разгадаў загадку... У мяшку былі часткі твораў мастацтва. Маленькі музэй з рэчаў, якія назаўсёды страціла рацыянальнае чалавецтва: рукі Вэнэры Мілоскай, нос Сфінкса з Гізы, акуляры Ніфэрціці... Скажаш: ніякіх акуляраў у жонкі Тутанхамона не было. Скажу: былі. У Эгіпце нельга без акуляраў, ведаю. Я быў і ў Каіры, і ў Гізе, і ў Сахары, там нельга жыць без акуляраў. І ўцякаць у Эгіпэт нельга.

*Каір — Менск*

*1996-97*

